

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 2 (637) 14 СТУДЗЕНЯ 2004 г.

## Дарагія сябры “Нашага слова”!

Сёння мы паведамляем вам вынікі падпісной кампаніі на першы квартал 2004 года. Нажаль, мы мусім ізноў паведаміць, што падпіска зменшылася на 72 асобнікі. Нягледзячы на тое, што падпіска па Берасцейскай і Магілёскай абласцях вырасла, а ў Гомельскай вобласці і Менску засталася, практычна, без зменаў, падзенне падпіскі па Горадні, Полацку і Гомелі адбілася на агульным стане спраў. Рэдакцыя шчыра дзякуе нашым сябрам, якія падтрымалі “Наша слова”, і выказвае спадзяванні, што гэтае зніжэнне было часовым.

| | Кастрычнік | Студзень |
|---|---|---|
| **Берасцейская вобласць:** | | |
| Баранавічы р.в | 18 | 16 |
| Бяроза р.в. | 7 | 6 |
| Белаазёрск р.в | 2 | 2 |
| Берасце гор. | 21 | 19 |
| Ганцавічы р.в. | 2 | - |
| Драгічын р.в. | 1 | 1 |
| Жабінка р.в. | 1 | - |
| Іванава р.в. | 1 | - |
| Івацэвічы р.в | 4 | 5 |
| Камянец р.в. | 1 | 22 |
| Кобрын гор. | 1 | 2 |
| Лунінец гор. | 2 | 1 |
| Ляхавічы р.в. | 1 | 1 |
| Маларыта р.в. | 1 | 1 |
| Пінск гор. | 14 | 13 |
| Пружаны р.в. | 5 | 6 |
| Столін р.в. | 2 | 2 |
| **Усяго:** | **84** | **97** |
| **Віцебская вобласць:** | | |
| Бешанковічы р.в. | 1 | 1 |
| Браслаў р.в. | 1 | 1 |
| Віцебск гор. | 18 | 19 |
| Віцебск РВПС | 2 | 1 |
| Верхнедзвінск р.в. | 7 | 10 |
| Глыбокае р.в. | 7 | 4 |
| Гарадок р.в. | - | 3 |
| Докшыцы р.в. | 2 | 2 |
| Дуброўня р.в. | - | 1 |
| Ліёзна р.в. | 2 | 1 |
| Лепель р.в. | 3 | - |
| Міёры р.в. | 8 | 7 |
| Новаполацк гор. | 31 | 26 |
| Ворша гор. | 4 | 5 |
| Полацк гор. | 40 | 18 |
| Паставы р.в. | 2 | 4 |
| Расоны р.в. | 1 | 1 |
| Сянно р.в. | 2 | - |
| Талочын р.в. | 1 | 1 |
| Ушачы р.в. | 3 | 2 |
| Чашнікі р.в. | 1 | 1 |
| Шаркоўшчына р.в. | 3 | 3 |
| Шуміліна р.в. | 2 | 1 |
| **Усяго:** | **141** | **112** |
| **Менская вобласць:** | | |
| Беразіно р.в. | 4 | - |
| Барысаў гор. | 3 | 3 |
| Вілейка гор. | 6 | 4 |
| Валожын гор. | 3 | 2 |
| Дзяржынск р.в. | 1 | 2 |
| Жодзіна гор. | 6 | 4 |
| Клецк р.в. | 3 | - |
| Крупкі р.в. | 1 | 1 |
| Капыль р.в. | 1 | 1 |
| Лагойск р.в. | 4 | - |
| Любань р.в. | 3 | 4 |
| Менск гор. | 273 | 274 |
| Менск РВПС | 8 | 11 |
| Маладэчна гор. | 17 | 13 |
| Мядзель р.в. | 2 | 3 |
| Пухавічы РВПС | 9 | 7 |
| Нясвіж р.в. | 2 | 1 |
| Смалявічы р.в. | 1 | - |
| Слуцк гор. | 8 | 10 |
| Салігорск гор. | 4 | 4 |
| Ст. Дарогі р.в. | 1 | 1 |
| Стоўбцы р.в. | 13 | 8 |
| Узда р.в. | 2 | 1 |
| Чэрвень р.в. | 6 | 5 |
| **Усяго:** | **381** | **359** |

| | Кастрычнік | Студзень |
|---|---|---|
| **Гомельская вобласць:** | | |
| Буда-Кашалёва | 2 | 4 |
| Брагін р.в. | 1 | 2 |
| Ветка р.в. | 1 | 1 |
| Гомель гор. | 52 | 36 |
| Гомель РВПС | 3 | 4 |
| Добруш р.в. | 1 | 2 |
| Ельск р.в. | 2 | 1 |
| Жыткавічы р.в. | 27 | 27 |
| Жлобін гор. | 5 | 6 |
| Калінкавічы гор. | 2 | 6 |
| Карма р.в. | - | 1 |
| Лельчыцы р.в. | 2 | 1 |
| Лоеў р.в. | 1 | - |
| Мазыр гор. | 5 | 6 |
| Акцябарскі р.в. | 1 | 2 |
| Нароўля р.в. | - | 1 |
| Петрыкаў р.в. | 2 | 3 |
| Рэчыца гор. | 1 | 2 |
| Рагачоў гор. | 1 | 2 |
| Светлагорск гор. | 6 | 7 |
| Хойнікі р.в. | 4 | - |
| Чачэрск р.в. | 1 | 1 |
| **Усяго:** | **120** | **115** |
| **Гарадзенская вобласць:** | | |
| Бераставіца | 2 | 8 |
| Ваўкавыск гор. | 9 | 12 |
| Воранава р.в. | 2 | 3 |
| Горадня гор. | 102 | 36 |
| Горадня РВПС | 32 | 12 |
| Дзятлава р.в. | 6 | 5 |
| Зэльва р.в. | 4 | 3 |
| Іўе р.в. | 1 | 4 |
| Карэлічы р.в. | 3 | 4 |
| Масты р.в. | 10 | 13 |
| Наваградак гор. | 7 | 9 |
| Астравец р.в. | 1 | 4 |
| Ашмяны р.в. | 3 | 7 |
| Смаргонь гор. | 7 | 13 |
| Слонім гор. | 5 | 9 |
| Свіслач р.в. | 5 | 9 |
| Шчучын р.в. | 1 | 5 |
| Ліда | 14 | 16 |
| **Усяго:** | **214** | **172** |
| **Магілёўская вобласць:** | | |
| Бабруйск гор. | 10 | 11 |
| Бабруйск РВПС | - | - |
| Бялынічы р.в | - | - |
| Быхаў р.в. | 1 | 3 |
| Глуск р.в. | 1 | - |
| Горкі гор. | 6 | 20 |
| Дрыбін р.в | 1 | 1 |
| Кіраўск р.в. | 1 | 1 |
| Клічаў р.в. | 1 | - |
| Краснаполле р.в. | 1 | 1 |
| Крычаў р.в. | 2 | - |
| Клімавічы р.в. | 2 | 3 |
| Касцюковічы р.в. | 2 | 1 |
| Круглае р.в. | 2 | 2 |
| Мсціслаў р.в. | 2 | 1 |
| Магілёў гор. | 18 | 15 |
| Магілёў РВПС | 2 | 1 |
| Асіповічы гор. | 5 | 7 |
| Слаўгарад р.в. | 1 | 1 |
| Хоцімск р.в. | 2 | - |
| Чэрыкаў р.в. | 3 | 8 |
| Чавусы р.в. | 1 | - |
| Шклоў р.в. | 2 | 3 |
| **Усяго:** | **66** | **79** |
| **Усяго па краіне:** | **1006** | **934** |

## Адзначаны 75 гадоў з дня заснавання Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі



9 студзеня ў Менску прайшлі ўрачыстыя мерапрыемствы, прысвечаныя 75-годдзю Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (НАНБ).

З гэтай нагоды ў НАНБ прыбылі замежныя вучоныя — дэлегацыі Нацыянальнай акадэміі навук Украіны на чале з прэзідэнтам, акадэмікам Барысам Патонам і Расійскай акадэміі навук (РАН) на чале з віцэ-прэзідэнтам, акадэмікам Аляксандрам Някіпелавым, а таксама прэзідэнт Аўстрыйскай акадэміі навук Герберт Манг, віцэ-прэзідэнт Польскай акадэміі навук Эміль Нальборчык, прэзідэнт Літоўскай акадэміі навук, акадэмік Зянонас Рудзікас, член прэзідыюму Латвійскай акадэміі навук, дэпутат Сейма Латвіі Юрыс Янсанс, дэлегацыя Сібірскага аддзялення РАН на чале з першым намеснікам старшыні, акадэмікам Вячаславам Малодзіным.

Правобразам НАНБ стаў Інстытут беларускай культуры, створаны на пачатку 20-х гадоў мінулага стагоддзя. 13 кастрычніка 1928 года была прынята пастанова Цэнтральнага выканаўчага камітэта і Савета народных камісараў БССР “Аб рэарганізацыі Інстытута беларускай культуры ў Беларускую Акадэмію навук”. 26 снежня 1928 года Саўнаркам БССР зацвердзіў прэзідыюм Беларускай Акадэміі навук, яе статут і правадзейных членаў. Урачыстае адкрыццё Беларускай акадэміі навук адбылося ў Менску 1 студзеня 1929 года, у дзесятую гадавіну ўтварэння БССР і Камуністычнай партыі Беларусі.

Нацыянальная акадэмія навук Беларусі сёння — гэта 7 аддзяленняў навук і каля 150 юрыдычных асоб. Агульная колькасць працаўнікоў складае 16,4 тыс. чалавек (у тым ліку ў навуковых установах — 11,1 тыс. чал.) З іх — 589 доктараў і 2 тыс. 171 кандыдат навук. Акадэмія навук налічвае 94 акадэмікі, 101 член-карэспандэнт, а ў аспірантуры НАНБ навучаецца 923 чалавекі (686 — вочна і 237 — завочна). У парадку суіскальніцтва над кандыдацкімі дысертацыямі працуюць каля 480 супрацоўнікаў НАНБ і спецыялістаў народнай гаспадаркі Беларусі.

*Генадзь ШАРЫПКІН, БелаПАН.*

## Ордэн Францішка Скарыны П’еру Кардэну

Вядомы французскі мадэльер, пасол добрай волі ЮНЕСКА П’ер Кардэн узнагароджаны вышэйшай узнагародай Рэспублікі Беларусь — Ордэнам Францішка Скарыны. Цырымонія ўзнагароджання адбылася вечарам 7 студзеня ў Менску.



## 100 гадоў з дня нараджэння Алеся Якімовіча



17 студзеня спаўняецца 100 гадоў з дня народзінаў аднаго з пачынальнікаў беларускай дзіцячай літаратуры, заслужанага дзеяча культуры БССР Алеся Якімовіча.

Нарадзіўся пісьменнік у в. Чурылава Узьдзенскага раёна. З 1924 года рэдагаваў беларускія дзіцячыя часопісы. Пісаў пераважна для дзяцей. Пісаў вершы, апавяданні аповесці. Апрацаваў і падрыхтаваў да друку лепшыя зборнікі беларускіх народных казак “Каток залаты лабок”, “З рога ўсяго многа”, “Андрэй за ўсіх мудрэй”, якімі зачытваліся ўсе дзеці пасляваеннай Беларусі.

У тэтралогіі “Адкуль ліха на свеце”, “Канец сервітуту”, “Кастусь Каліноўскі”, “Цяжкі год” упершыню стварыў цэльны літаратурны вобраз Кастуся Каліноўскага, які надоўга стаў своеасаблівым стэрэатыпам для гісторыкаў і пісьменнікаў. Аўтар кніжак для чытання, крытычных артыкулаў па дзіцячай літаратуры. Перакладаў на беларускую мову творы замежных аўтараў. Яго імем названая Зеньківіцкая школа ў Уздзенскім раёне.

Да 135-ай гадавіны з дня народзінаў Ядвігіна Ш.

# Зацемкі Ўладзіміра Содаля пра Ядвігіна Ш.

## Ядвігін Ш.

*Неяк раз Ядвігін Ша*
*Вяртаўся задуманны з кірмаша.*
*Успамінаў, як каханне першае сустрэў:*
*Да дзяўчыны Ядвігі прыкіпеў:*
*-Ядвіга, ціха! Ша!*
*Навекі вечныя ты мая!*
*І я навекі вечны твой:*
*Ніколі не расстануся з табой!*
*Быў Антось Лявіцкі я,*
*А зараз я – Ядвігін Ша.*
*А гэта кніжачка мая –*
*"Бярозка", "Лісты з дарогі", "Васількі",*
*"Пазыка", "Вучоны бык", "Падласенкі",*
*"Рабы".*
*Пачытай яе і ты!*
*Пачуеш голас наш з далёкай нематы.*
*У Марцінкевічай Люцыны тое было..*
*Было, было, ды даўно сплыло...*
*А ці сплыло?*
*Ці ўсё травою парасло?*

**"Бывае, находзяць думкі – іншы раз'вясёлыя, то і зноў сумныя, але такія дарагія, такія патайныя, што баішся, каб хто не падслухаў, не падглядзеў, не здагадаўся іх, бо іх ведаць ніхто не павінен – ніхто!"** *(З люцінкаўскіх успамінаў Ядвігіна Ш.)*

- Ядвіга, ціха! Ша!
Гэта ўсё я і я.
Усюды я, Ядвіга ты мая.
Ядвізін я.
На векі вечныя я твой:
Ядвігін Ша – псеўдонім будзе мой!

Цікавы псеўданім сабе абраў Антось Лявіцкі. І загадкавы! Ніхто з ягоных сучаснікаў: ні Зоська Верас, ні Канстанцыя Буйло, ні Паўлінка Мядзёлка, ніхто іншы не пацікавіліся ў сваю пару гісторыяй гэтага псеўданіма Антося Лявіцкага. Калі мы, маладзейшыя пыталіся ў іх пра гэта, яны адно рукамі разводзілі. Праўда, хтось з іх казаў, нібыта гісторыя згаданага псеўданіма мае выток з яшчэ падлеткавага заляцання Антося Лявіцкага да якойсь, больш сталай за яго дзяўчыны, якую звалі Ядвіга. На гонар захаплення гэтай дзяўчынай ён і назваўся Ядвігіным. Ну, то хай гэтак і будзе, як кажуць. Як казалі!

Першыя два радкі належаць майму унуку Сяржуку. Гэтыя радкі праўдзіва і сталіся штуршком да разгортвання сюжэту.



Карпілаўская крынічка з накінутым на яе цэментовым кругам у трыццатыя гады байцамі пагранічнікамі, якія базаваліся на пісьменнікавай сядзібе.

## Раны

Ядвігін Ш. любіў свой фальварак, дбаў пра ягонае харавтва і гармонію. Неяк казаў аднаму свайму знаёмаму: "Мне зайздросцяць нават вялікія паны!"

Пераважную бальшыню сваім твораў Ядвігін Ш. вынасіў у сваёй любай Карпілаўцы. У Карпілаўцы напісаліся і ягоныя "Раны".

### *Раны*

***Памяці С. Палуяна***

*Бываюць раны большыя і меншыя. Меншыя – гояцца, і па іх знаку няма. Большыя – гояцца, але па іх астаюцца рубцы.*
*Гэтак на целе.*
*Бываюць раны большыя і меншыя. Меншыя – гояцца: па іх астаюцца рубцы. Большыя – заўсёды крывавяцца.*
*Гэтак на сэрцы.*
*Бываюць раны большыя і меншыя. Меншыя – заўсёды крывавяцца. Большыя – залечвае толькі... смерць*
*Гэтак на душы."*

Ад сябе дадамо: бываюць раны і на зямлі. Зараз сядзіба Ядвігіна Ш. уся ў ранах. Гэтыя раны і на рэштках старога саду і на сядзібнай крынічцы. Знявеча-ная нават векавая гара. Параніў хтось і векавога Дуба-Дзядулю: выпаліў увесь яго камель, зрабіў з дуба печ, хоць вугаль у яго шуфляй закітай. Ну а што мы? Якія мы?

На Беларусі мінуў год парадку на зямлі. За гэты год парадку на сядзібе Ядвігіна Ш. стала яшчэ больш беспарадку, чым было.



Той самы Карпілаўскі пагорак, які ў 1916 годзе замаляваў Уладзіслаў Галубок. На пярэднім плане рэшткі загарадкі летняга цялятніка. Фота Ул. Содаля.



Карпілаўскі дыназаўр. Жыраф. Фота Ул. Содаля.

**Крынічка**

Крынічка-крынічка, чыстая вадзічка,
Як жыла, што рабіла?
Я плачу, я плачу:
Дабрыні сярод людзей мала бачу.
Пісьменнікаву сядзібу
Смеццем завалілі,
Дубы мае папалілі.
Цэментовы круг на мяне ўзвалілі...
От чаму я і плачу, што дабрыні ад людзей мала бачу...
*Сержык Чылікін-Садальскі, 16.12.03 г.*



Карпілаўская рачулка на сядзібе Ядвігіна Ш.



Алесь Чэчат, выкладчык педкаледжа з сваімі выхаванцамі ля славутага, выпаленага зламыснікамі, Дуба-Дзядулі.

№ 2 (637) 14 СТУДЗЕНЯ 2004 г. наша слова

Да 135-ай гадавіны з дня народзінаў Ядвігіна Ш.

# Зацемкі Ўладзіміра Содаля пра Ядвігіна Ш.

## МУЗЕЙ

(Заканчэнне. Пачат. на ст. 2-3)

5. Схема – абрыс Карпілаўкі з усімі яе ваколіцамі, з мікратапанічнымі і геаграфічнымі назовамі, дарогамі. А гэта: Сама Карпілаўка, Зялёная Лучка, Айчызна, Рубеж, Рубяжок, Буды, Вялікае Поле, Пастаўнік, Здарэнне, Жукаўка, Шапялі, Дворышча, Селішча, Акопы, Харужанцы, Малыя Бяседы.

Шматлікія фотаздымкі колішніх суседзяў Ядвігіна Ш. Дый ці мала чаго яшчэ! Усё б знайшлося б. Галоўнае – пачаць!

Усё гэта можна было б здзейсніць, калі б нехта падтрымаў, калі б Сяргей адчуў, што гэта некаму яшчэ патрэбна. А пакуль...

А пакуль колішнюю пісьменнікаву сядзібу заваліваюць смеццем, разбіваюць трактарамі ды машынамі...



*Рагалік - выява гербу "Біберштэйн" роду Лявіцкіх. Фота Анатоля Каляды*




***Прыжыццёвыя выданні кніг Ядвігіна Ш. Фота Анатоля Каляды***




***Гаспадыня Карпілаўкі - жонка Ядвігіна Ш. Люцыя, на долю якой выпала нямала выпрабаванняў. Фота Анатоля Каляды***

# Памяткі па Ядвігіну Ш.

Ушанаванне імя Ядвігіна Ш. пачалося з 1937 года.

У гэтым годзе клопатам рэдакцыі заходнебеларускага часопіса "Шлях моладзі" на магіле Ядвігіна Ш. на Росах, што ў Вільні ўсталяваны надмагільны помнік.

Ушанавана імя Ядвігіна Ш. І ў Радашковічах вялізным валуном з металёвай дошкай. На ёй распавядаецца, што пэўны час Ядвігін Ш. жыў у Радашковічах, працаваў памочнікам правізара ў аптэцы.

Гэтай жа парою ў 1978 годзе імя Ядвігіна Ш. адліта на памятным знаку паблізу вёскі Мясота, на так званым помніку Віленскаму тракту. У канцы васьмідзесятых гадоў было ўшанавана імя Ядвігіна Ш. і ў Менску. На колішнім будынку дзяржаўнай гімназіі ўсталявана памятная дошка, якая сведчыць, што разам з іншымі гімназістамі скончыў 3-х гадовую гімназію і Ядвігін Ш.– Антось Лявіцкі. Ёсць у Менску па Ядвігіну Ш. і яшчэ адна памятка. Праўда, пра яе мала хто ведае. Гэтая памятка – абсады з ліпаў на праспекце Францішка Скарыны. Шмат якія з іх з сядзібы Ядвігіна Ш., з Карпілаўкі.

Нарэшце, у 1996 годзе з клопатам земляка Ядвігіна Ш. Сяргея Давідовіча, паэта і мастака, быў ўсталяваны мемарыяльны знак і на пісьменнікавай сядзібе.

Наша грамадства, як бачым, спакваля, не вельмі спяшаючыся, ушаноўвала імя аднаго з тых, хто наблізіў ідэю незалежнасці Беларусі, прагнуў краю асветы, культуры, як мог памнажаў наш духоўны скарб. Пакуль гэтае ўшанаванне ідзе з ініцыятывы асобных людзей і грамадскіх арганізацый. Дзяржава свайго слова яшчэ не сказала.



***Сядзібны знак, усталяваны ў Карпілаўцы рупнасцю Сяргея Давідовіча***

***Мемарыяльная дошка з імёнамі выдатных людзей, якія ў свой час скончылі менскую гімназію. Фота Анатоля Каляды***



***Дарога з Карпілаўкі ў купалавы Акопы. Фота Ул. Содаля.***



***Карпілаўскі Дуб-Дзядуля - уцеха Ядвігіна Ш. (чытай апавяданне "Дуб-Дзядуля"). Фота Анатоля Каляды***



***Замалёўка дома Ядвігіна Ш. Паводле ўспамінаў Надзеі Гаеўскай і Вячаслава Несцяровіча з Малых Янушкавічаў***




***Помнік дзеячам літаратуры і мастацтва пры старым віленскім тракце, каля в. Мясоты, на якім значыцца і імя Ядвігіна Ш.***



***Эмілія і Маргарыта Стральчэні каля магілы Ядвігіна Ш. Могілкі Росы, снежань 2000 г., г. Вільня***

# Падведзены вынікі алімпіяды па беларускай мове



**Прыз за перамогу ў алімпіядзе па беларускай мове ўручае намеснік старшыні Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ, старшыня ТБМ і выкладчык беларускай мовы Лідскага педкаледжа Міхась Іванавіч Мельнік.**

10 студзеня ў Лідскім педкаледжы адбылося падвядзенне вынікаў і ўзнагароджанне ўдзельнікаў і пераможцаў алімпіяды па беларускай мове.

У алімпіядзе бралі ўдзел 10 чалавек: Лобач Ганна, Навагродская Ірына, Прытуліна Таццяна, Станчык Алена, Грынкевіч Вольга, Блізнеўская Наталля, Буйко Святлана, Левандоўская Надзея, Габіс Кацярына, Жукава Паліна. Пераможцамі сталі Станчык Алена і Грынкевіч Вольга. Яны возьмуць удзел у абласной алімпіядзе.




У якасці прызоў усе ўдзельнікі алімпіяды атрымалі кніжкі беларускіх пісьменнікаў, а таксама Беларускі спеўнік. Гэты спеўнік выдала Гарадзенская абласная рада ТБМ у 2002 годзе. У 2003 годзе з дапамогай Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ спеўнік вытрымаў 2-е выданне. Спеўнік мае кішанькowы фармат, 96 старонак і ўтрымоўвае 73 беларускія песні самай рознай тэматыкі. Уклалі зборнік Алесь Місцюкевіч, старшыня Гарадзенскай абласной арганізацыі ТБМ і гарадзенскі кампазітар Яўген Петрашэвіч.

Уручэнне прызоў удзельнікам алімпіяды правадзілі Станіслаў Суднік, старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны і намеснік старшыні Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ, старшыня ТБМ і выкладчык беларускай мовы Лідскага педкаледжа Міхась Мельнік.

Трэба адзначыць, што арганізацыя ТБМ Лідскага педкаледжа адна з самых буйных у краіне. Час ад часу яна налічвае да 250 чалавек, маючы стабільна каля 150-200 сяброў. Беларуская мова займае ў гэтай навучальнай установе годнае месца.

*Яраслаў Грынкевіч.*



**Выкладчыкі беларускай мовы Лідскага педкаледжа Міхась Іванавіч Мельнік і Яніна Вацлаваўна Будзішка з удзельнікамі алімпіяды па беларускай мове.**

# СЁЛЕТА Ў ІВАЦЭВІЦКІМ РАЁНЕ БУДЗЕ АДНОЎЛЕНА СЯДЗІБА ТАДЭВУША КАСЦЮШКІ

Да ліпеня ў Івацэвіцкім раёне плануецца аднавіць сядзібу Тадэвуша Касцюшкі, палітычнага і грамадскага дзеяча Рэчы Паспалітай, нацыянальнага героя ЗША, ганаровага грамадзяніна Францыі.

Рашэнне пра рэканструкцыю сядзібнага дома было прынята Берасцейскім аблвыканкамам у лістападзе 2002 года. Летам 2003 года на месцы, дзе стаяла сядзіба Касцюшкі, праводзіліся раскопкі. Як паведаміў БелаПАН інспектар па ахове гістарычна-культурнай спадчыны ўпраўлення культуры Берасцейскага аблвыканкаму Леанід Несцярчук, на месцы існавання старажытнай сядзібы быў знойдзены падмурак і шмат прадметаў побыту, цікавых для будучага музея, які плануецца стварыць у аднаўленым доме.

28 тысяч долараў на аднаўленне сядзібы перадало пасольства ЗША ў Беларусі. Акрамя таго, 35 мільёнаў рублёў выдаткаваў Берасцейскі аблвыканкам. Паводле слоў Л. Несцярчука, грошы з абласнога бюджэту пайшлі на выраб праектнай дакументацыі, археалагічныя даследаванні, умацаванне падмурку, нарыхтоўку камення, драўніны і іншыя гаспадарчыя патрэбы.

"Да сённяшняга дня гатовы падмурак пад дом, — паведаміў Несцярчук. — Нарыхтавана 30 з 70 неабходных кубаметраў лесу. Сасну нарыхтоўваюць у Івацэвіцкім лясніцтве — гэта лес ва ўзросце 80-100 гадоў. З прыходам халадоў приступілі да нарыхтоўкі трыснягу для даху". Работы не спыняюцца ні на дзень, сцвярджае спецыяліст. За іх вядзеннем і выкарыстаннем сродкаў аблвыканкам устанавіў жорсткі кантроль.

4 лютага, у дзень нараджэння Тадэвуша Касцюшкі, ва ўрачыстым Мерачоўшчына па традыцыі збяруцца прадстаўнікі грамадскасці і дыпламаты. Паводле слоў Леаніда Несцярчука, чакаецца, што ўдзел у памятных мерапрыемствах возьме пасол ЗША ў Беларусі Джордж Крол.

***Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН.***

## У ОРШЫ АБВЯСЦІЛІ ЗБОР СРОДКАЎ НА НАБЫЦЦЁ ДЛЯ МЯСЦОВАГА МУЗЕЙНАГА КОМПЛЕКСУ ПАРТРЭТА ПІСЬМЕННІКА УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА

Супрацоўнікі аршанскага музейнага комплексу "Гісторыя і культура Аршаншчыны" абвясцілі збор сродкаў на набыццё партрэта іх земляка, знакамітага беларускага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча.

Ідэя набыць партрэт прыйшла пасля правядзення ў снежні мінулага года ў аршанскім музеі Уладзіміра Караткевіча выставы вядомага беларускага мастака Аляксея Марачкіна. Сярод выстаўленых работаў было палатно з выявай пісьменніка. Яго кошт складае прыкладна адзін мільён рублёў.

Музейныя работнікі Оршы звярнуліся да жыхароў горада і вобласці з просьбай ахвяраваць сродкі на набыццё партрэта пісьменніка.

***Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ, БелаПАН.***




## Ахвяраванні на ТБМ

1. Казлоўская І. І. – 1400 р., г. Менск
2. Кукса Міхась – 300 р., г. Менск
3. Ліпніцкая В. А. – 10000р., г. Менск
4. Наваградская суполка – 5000 р.
5. Масалкоў Уладзімір – 3000 р., г. Менск
6. Чайкоўскі Павел. – 4000 р., Менскі р-н.
7. Літоўчык Святлана – 8000 р., г. Белаазёрск
8. Чаранкоў Юрась – 10000 р., г. Мазыр
9. Петрукловіч Васіль – 11000 р., г. Менск
10. Гурло Сяргей – 1000 р., г. Бабруйск
11. Кобец-Філімонава – 5000 р., г. Менск
12. Падгайскі М. В. – 20000р., г. Баранавічы
13. Дзягілевы – 2000 р., г. Менск
14. Шкірманкоў Фелікс – 5000 р., г. Слаўгарад.
15. Баінская Аўгіння-Ніна – 3000 р. г. Менск

Таварыства беларускай мовы пры правядзенні мерапрыемстваў у абарону беларускай мовы нясе значныя матэрыяльныя выдаткі. Просім па меры магчымасці падтрымаць Таварыства.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г. Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белінвестбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

**Паведамленне**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**

атрымальнік плацяжу

**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**

назва банка

Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| **Ахвяраванні ТБМ** | **на дзейнасць** | | | |
| | | | | |
| | | | | |

Пеня

Разам

**Касір**

**Плацельшчык**

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705**

атрымальнік плацяжу

**Мінская гарадская дырэкцыя ААТ "Белінвестбанка"**

назва банка

Рахунак атрымальніка **3015212330014** Асабовы рахунак **764**

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| **Ахвяраванні ТБМ** | **на дзейнасць** | | | |
| | | | | |
| | | | | |

Пеня

Разам

Квітанцыя

**Касір** **М.П.**

**Плацельшчык**

# "Я Ў ПАМЯЦЬ УПІШУСЯ ЛЮДСКУЮ..."

## (З нагоды адкрыцця помніка Ларысе Геніюш у Зэльве)

*Як жыць – дык жыць для Беларусі,*
*А без яе – зусім не жыць!*
*Ларыса Геніюш.*

Ларыса Антонаўна Геніюш сёння для нас не толькі пісьменніца – паэт і празаік – але і выдатны дзеяч нацыянальнай гісторыі, бо яе творчасць, мужнае, пакутніцкае жыццё, грамадская дзейнасць – увасабленне сапраўды глыбіннага беларускага духу, прыклад беззапаветнага служэння "наймілейшай Краіне", Бацькаўшчыне-Беларусі, якую яна, як і Купала і пісьменнікі-выгнанцы, лічыла "забраным, укрыжаваным краем". Але тое, што яна здзейсніла ў літаратуры як пераемніца класічнай спадчыны Ф. Багушэвіча, Цёткі, М. Багдановіча, Я. Купалы, Я. Коласа, М Гарэцкага, іншых беларускіх і сусветных творцаў – неацэнны скарб нацыянальнага мастацтва.

У XX с тагоддзі Ларыса Геніюш – адна са стваральніц нацыянальнай беларускай літаратуры – нацыянальнай не толькі сваёй праблематыкай, зместам, мовай, высокімі эстэтычнымі і мастацкімі якасцямі, але і бясстрашным, глыбокім раскрыццём сутнасці нацыянальнай ідэі і, найперш, волі і незалежнасці Беларусі ад усялякіх акупантаў. *"Зямля наша вабіць прыблудаў чужых,*
*прывыклі няволіць сярмяжныя сем'і,*
*зжынаюць пшаніцу, а сеюць крыжы*
*і путаюць дротам шляхі навакола....*

Яе лірычныя вершы, паэмы, апавяданні-успаміны, кніга "Споведзь", эпісталярная спадчына – сведчанні трагічнай эпохі і таго, як яна адбілася ў жыцці і светаадчуванні асобнага чалавека, сям'і, роду, усёй Бацькаўшчыны, якая на працягу многіх стагоддзяў пакутвала ад бясконцых акупацыяў, падзелаў, рэпрэсій, войнаў, катастроф. Сёння мы ведаем, як нішчыўся і нішчыцца беларускі дух, мова, а розныя ўлады ўсё рабілі і робяць дзеля таго, каб зняславіць лепшых сыноў і дачок Беларусі, зрабіць іх "ворагамі народа", выслаць у ГУЛаг, расстраляць, прымусіць пайсці ў выгнанне за іх адданасць беларушчыне, за таленавітае беларускае слова, за "нацыяналізм". А што такое "нацыяналізм"? У лепшым сэнсе – гэта любоў да куточка зямлі, дзе нарадзіўся і вырас, да сваёй Радзімы, яе гісторыі, мовы, традыцый, культуры і літаратуры, свайго народа, сцверджанне яго сувярэннасці і свабоды сярод іншых народаў свету. Вось такімі ідэямі, такім вольналюбівым духам і прасякнута творчасць Ларысы Геніюш – адной з самых таленавітых паэтэс XX стагоддзя. Яна нарадзілася напачатку гэтага стагоддзя (1910) і выхаваная на адвечных традыцыях працавітай сялянскай сям'і, рана далучыўшыся да еўрапейскай культуры, больш за ўсё цаніла сваё і заўсёды падкрэслівала: *"З наднямонскіх крыніц маёй песні вытокі. На зямлі беларускай мае алтары..."* Яна спавядала ідэі БНР і ўмела спалучыць у сваёй творчасці агульначалавечае, нацыянальнае, хрысціянскае – усё тое, чым прываблівае нас класічнае мастацтва. Ларыса Геніюш гаварыла свету тое, чым сапраўды цікавая людзям яе "матуля – Беларусь". Як і іншыя краіны, Беларусь можа ганарыцца сваёй багатай гісторыяй, выдатнымі дзяржаўнымі дзеячамі, святымі, героямі, творцамі (пра гэта вершы: "Князь Усяслаў Чарадзей", "Еўфрасіння Полацкая", "Скарына", "Забэйдзе-Суміцкаму", паэма "Даўніна"). Гэта пра Усяслава, але і пра ўласныя пачуцці яе радкі:

*Агнём палымяным трэ край свой кахаць,*
*трэ вырасці з ніваў, загонаў,*
*каб славу, багацце – усё кінуць, аддаць*
*за кліч свайго роднага звона...*

Гэта не толькі думы Прадславы-Еўфрасінні, сугучныя ўласным, раскрывае паэтэса ў паэме "Даўніна":

*Велічы ў свеце няма без ахвяр,*
*жыцця я свайго не шкадую,*
*Богу прынёсшы яго на алтар,*
*я ў памяць упішуся людскую.*
*У попел рассыплецца мораны дуб,*
*скарбы сатлеюць па скрынях,*
*а я праз вякі, палачанка, пайду,*
*каб жыць для людзей між святымі...*

Беларусь можа ганарыцца і традыцыямі, звычаямі жыцця свайго народа, якія яскрава апісаны ў паэме "Куфар", дзе паэтэса метафарычна раскрывае вякамі назапашаныя вялікія нацыянальныя каштоўнасці, створаныя талентам і вынаходлівасцю беларусаў. Пра гэта і вершы "Дзяды", "Навучыла маці", "На начлезе", "Мой лён і сны", "Беларусы", "Баразна", "Святы вечар", "Вырай маладзі", "Гасціна": *Народ аседлы мы,*
*не птушкі пералётныя,*
*і Бацькаўшчына нашая – не стэп.*
*З зямелькі ворнае, з сяўні і поту мы,*
*так пакахаўшыя касу і серп.*
*Дажджамі мы абмытыя і росамі,*
*і шчодрыя такія ж, як яна...*

У такіх вершах паэтэса шырока выкарыстоўвае адпаведную лексіку, якая раскрывае глыбокі падтэкст кожнага твора, роздум аўтара:

*Калі дабро пасею на загоне,*
*Закаласяцца і дабром палі...*
*Сялянка. Веру ў розум, веру ў працу.*
*У чарназём. У цёплы дождж з гары.*
*У думках можна толькі разагнацца*
*А на палетках – пачакай пары.*



Пасля набажэнства ў памяць Ларысы Геніюш. Зэльва, 9.08. 2003 г.



*Пасля набажэнства ў памяць Ларысы Геніюш у Свята-Троіцкай царкве ў Зэльве 9.08. 2003 г. У цэнтры а. Аляксандр з Каложскай царквы, злева Сафія Вераб'ёва, справа Анатоль Белы.*

*Няма без працы на ўмалот надзеі.*
*Змалоцім каласы – тады спачнём.*
*І сёння трэба праўду ў полі сеяць.*
*Бо што пасеем, тое і пажнём...*

З вялікім пачуццём замілавання апісвае Ларыса Геніюш красу прыроды свайго "наймілейшага Краю" у вершах "Вячэрняя містэрыя", "О, краіна", "Мінулыя дні", "Астры", "Вясна", "Лятуць гусі", "Хачу бачыць", "Нёмне", "Сыплецца лісце", "Беларусь", "Дубы", "Белавежа", "Развітальна заплакала восень", "Ёсць край адзін". Але нельга без глыбокага суперажывання чытаць яе выдатныя вершы, прысвечаныя Празе, гораду, які спакон веку даваў прытулак беларусам-выгнанцам: Скарыне (і даўно паставіў помнік нашаму асветніку і першадрукару ў адрозненне ад Менска), ураду БНР, Ларысе Геніюш, Забэйдзе-Суміцкаму, Васілю Быкаву – і тым ганарыўся перад усім светам.

*Бывай, дарагая мне Прага!*
*Ты ў белы прыбралася іней,*
*калі карабель мой жыццёвы*
*прыстаў на Вэлтаве сіняй.*

*Адвагі было ў мяне мала,*
*настрой – беларускі, гаротны.*
*А ты снегам места прыбрала*
*так белым, як нашы палотны!*

*Бывай, залацістая Прага!*
*Мой парус кірунак ужо меціць...*
*Успомню цябе я няблага*
*за казкі і сэрца каменняў...*

*За прыязні даўняй адзнакі,*
*за кожнага Крывіі сына –*
*прымі сяяння, Прага, падзяку*
*ад унучкі Францішка Скарыны!*

Аднак больш за ўсё яна любіць сваю Беларусь, яе прыроду, нацыянальныя сімвалы, мову, гэтовыя іх ўсхваляць, апяваць, згадваць амаль у кожным вершы, бо: *Там нашыя песні, там наша багацце,*
*там жытняе мора, магілы дзядоў*
*і родныя хаты і людзі, як брацці,*
*і казкі, і слава мінулых часоў...*

*Бо бацька і маці і родная мова,*
*узнятая к славе амаль з небыцця*
*паэтаў натхнёным і велічным словам,*
*для беларусаў – пытанне жыцця...*
*("Як бацька чакае сыноў")*

*Мова родная, мова дзядоў!*
*іншай мовы мы сэрцам не чуем.*
*Мілагучнасцю любых нам слоў,*
*быццам музыкай, душу чаруеш...*
*("Родная мова".)*

*Мая мова – як шчасце на вуснах,*
*хвалявання гарачы прыбой,*
*можа быць на чужой засмяюся,*
*усё ж заплачу з тугі на сваёй...*
*("Мая мова".)*

І менавіта сваёй мовай яна раскрывала цяжкую долю роднай, любай Беларусі, ёй складала вершы-малітвы, заклікала да яднання, да абароны нацыянальных святыняў: *"Сёння на пласе родная мова.*
*Вырваць жывую належыць з агню.*
*Слова "кахаю" – слабое слова.*
*Мужнае слова – "абараню"!*

*Мне жыцця для Цябе не шкада,*
*паэтыцкім мы зроднены духам,*
*Бог і слёзы на тое мне даў,*
*каб Цябе заліваць ў час засухі.*

*І на тое мо сэрца ў грудзёх,*
*каб сагрэць Цябе словам і чынам,*
*і на тое натхненне даў Бог.*
*каб Цябе апяваць безупынна...*
*("Зямля").*

Адкрытае, чулае сэрца паэта было перапоўнена не толькі светлымі песнямі пра Айчыну, але найбольш змагарным агнём за "волю і долю, шчасце народу". І яна, мужная жанчына-паэтэса, не баіцца сваім змагарным словам расказаць свету, колькі цярпела Беларусь ад розных войнаў і акупацыяў, якія здзекі і вынішчэнне абрынуліся на таленавітых людзей Бацькаўшчыны. Галоўная гераіня яе вершаў, раскрываючы свае думкі, пачуцці, сваю грамадзянскую пазіцыю, часта прызнаецца: *"Доля не кунежыла мяне, // вельмі скупа адмярала радасць...", "Сэрца прагла радасці людской, // боль не раз шчыміў яго начамі...", "Учора сурова падбілі мой лёт, // песні паранілі ясныя крыллі..."* Але ніякія выпрабаванні не зламалі яе вольны дух, думы ніколі не былі ў аковах, бо *"ува мне пяе душа мае Зямлі"*. Сваю задачу паэта яна бачыла найперш у служэнні Айчыне.

*Усё, што цешыць, і ўсё што баліць,*
*на палотны ўзорам раскіну,*
*хвалі, краскі, калоссе, палі –*
*ўсю красу наймілейшай Краіны..."*

**У горы я над тваімі ранамі...**
**Божа, болей Цябе не карай,**
**старажытны, любы, каханы мой,**
**вечна скованы, родны край!**

**Мой курганны, жытні, зубрыны мой,**
**вытрывалы ў агні пакут,**
**Еўфрасінін, святы, Скарынавы**
**Беларускі адвечны кут...**
*("У горы я над тваімі ранамі").*

Любоў, каханне да Бацькаўшчыны для Ларысы Геніюш – гэта *"кінуць сябе на алтар Беларусі", "кахаць – гэта мэты свае дасягнуць у жыцці маім – Айчыне даць волю!".*

І мы ведаем, якія пакуты вынесла яна дзеля гэтай вялікай мэты, асуджаная разам з мужам у 1949 г. на 25 гадоў катаргі за сваё паэтычнае слова і за беларускую дзейнасць, адданасць ідэям БНР.

*Сілаю ў сеці злоўлена.*
*Краты ўсё і ланцугі.*
*Сэрца маё перапоўнена*
*Горам праз берагі.*

*Скаргі аднак не вымаўлю,*
*Болю не знаю, бадай.*
*Выцерплю, у Бога вымалю*
*Волю табе, родны Край.*
*("З мінулага")*

Катаржныя ўмовы сталінскага ГУЛагу апісаны ў яе вершах, "Споведзі" гранічна праўдзіва, можа больш стрымана-эмацыянальна, чым у творах Салжаніцына, С. Грахоўскага, Ф. Аляхновіча, А. Звонака і іншых пісьменнікаў – вязняў ГУЛагу, аднак яны ўражваюць менавіта гэтым жаночым цярпеннем, мужнасцю, трываласцю, нязломнасцю духу.

***"Я не гнуся ў палоне,***
***не знаю, што страх***
***не палохайце словам, ні чынам.***
***Не ўздрыгне яно***
***нат у найстрашнейшых руках***
***Беларускае сэрца жанчыны!..."***

*Крывёй напоўніліся поймы рэк,*
*бурліць адчаем слёз людскіх разводдзе.*
*Гляджу на свет. Я – лагернік, я – зэк,*
*засуджаны на мукаў чвэрцьстагоддзя.*

*Мяне драты, сабакі сцерагуць,*
*дзікіх надзораў зграя нада мною,*
*і лоб штодня мой на прыцэл бяруць*
*навучаныя забіваць канвоі.*

*Мне ўсё ўзялі, разбурылі сям'ю,*
*кіркой прабілі лёс мой чалавечы,*
*ланцуг накінулі на шыю салаўю*
*і між сабою падзялілі рэчы...*
*("Крывёй напоўніліся поймы рэк.")*

І сёння мы ў сваім змаганні за Беларусь, яе волю і незалежнасць, павінны памятаць пра здзекі над людзьмі крывавай дыктатуры, ніякім чынам не дапускаць яе вяртання ні пад якім папуліцкімі лозунгамі, павінны выхоўваць ў сабе такую ж веру і нязломнасць духу, высокую нацыянальную свядомасць, як і ў незабыўнай Ларысы Антонаўны, павінны прыслухацца да яе пажаданняў:

***"Хай славіцца наш беларускі род***
***душой з вясны і воляю са сталі,***
***каб з гнёздаў нам не пеўнікі на плот,***
***а горда арляняты вылятаді...",***

да яе веры:

***"Мы – як зубры,***
***нас можна знішчыць громам,***
***але з зямлі нас роднай***
***не скрануць...",***

да яе запаветаў і трывог:

***"Адзінай мэты не зракуся,***
***і сэрца мне не задрыжыць:***
***як жыць – дык жыць для Беларусі,***
***а без яе – зусім не жыць!...",***

да яе малітваў за Беларусь.

***О маці Божая! Ты – ласка ў цярпенні,***
***Прамень святла, што праз вякі не згас,***
***На голаў грэшную маю пашлі благаславенне***
***І будзь пры мне ў жыцця адказны час.***

***Хай будзе мір і ўсюды Твая воля,***
***І Бог – Твой Сын –распяты на крыжы.***
***Стары народ наш не пакінь ніколі***
***І ад нягодаў землю сцеражы!***
***("Жыровічы").***

***О Беларусь, мой край стары і слаўны,***
***мой горды лёт, мой сэрца кожны стук,***
***я волі не вымольвала ў тыранаў,***
***дачка Твая, я са змагань і мук.***

***І допыты, і вязніца глухая,***
***гдзе дотык смерці і халодны пот,***
***і долі лёд, і тундра ледзяная,***
***клыкі сабак і боль, і штык, і дрот...***



**Помнік Ларысе Геніюш у Зэльве**

***Даруй жа тым, што мову прадавалі,***
***аб Тваёй волі не хацелі чуць,***
***што за Цябе мячоў не падымалі...***
***Даруй жа тым, даруй і не забудзь!***
***("О Беларусь!")***

Ларыса Антонаўна заклікала беларусаў пераадолець свае страхі перад рознымі акупантамі:

***Страх – за праўду кінуцца ў бой,***
***страх – не дагадзіць акупантам,***
***быць удома самім сабой.***
***чалавекам быць – страх праклятый!***
***Суд – за думкі вольны размах,***
***воля – толькі прадажнаму слову.***
***Беларусам быць – тройчы страх,***
***страх – валодаць роднаю моваи...***
***Страх – гуманнасці, дабраты,***
***перад рускім страх, перад ляхам, -***
***мы ж не горшыя, што ж, браты,***
***можа хопіць гэтага страху...***
***("Страх")***

А адолеем мы гэты страх, як сцвярджала паэтэса, калі будзе з намі *"еднасць, згода і Вялікі Бог!"*

Пражыла Ларыса Геніюш усяго 73 гады, а магла б пражыць і здзейсніць нашмат больш, каб не малолі яе долю, як і долю беларусаў, "чужыя млынары", не падразалі крылы яе музе. Пахавана ў Зэльве, дзе жыла з мужам пасля вызвалення з ГУЛагу ў 1956 г., увесь час знаходзілася пад наглядам КДБ. Пры жыцці былі выдадзены тры паэтычныя зборнікі: "Ад родных ніў" (Прага, 1942), "Невадам з Нёмана" (Менск, 1976), "На чабары настоена" (Менск, 1982). Дзённік "Споведзь" упершыню быў надрукаваны ў 1988 г. (час. "Маладосць", асобнае выданне ў 1993 г.). Творы Ларысы Геніюш выдадзены ў серыі "Беларускі кнігазбор" (Менск, 2000). У гады сталіншчыны былі знішчаны бацькі Ларысы Антонаўны, разбурана радавое гняздо ў маёнтку Жлобаўцы каля Ваўкавыска, у вайне загінулі браты, а малы сын Юрка падчас арышту бацькоў у 1948 г. быў кінуты на волю лёсу ў Празе, выжыў, дзякуючы добрым людзям, пазней стаў пісьменнікам, але ўсё жыццё пражыў у Польшчы. Апусцелы дом Геніюшаў стаіць у Зэльве, на вуліцы, якая носіць назву Савецкай.

Зусім нядаўна тут на пляцы мясцовай царквы руплівцамі беларушчыны ўстаноўлены помнік выдатнай паэтэсе. Надыдзе час і вуліца будзе названа ў гонар Ларысы Геніюш. Так станецца!

***Недасказана, нязроблена так многа,***
***неадпомшчана за слёзы і за кроў.***
***Я пакіну вам мае трывогі,***
***я пакіну вам маю любоў.***
***Няхай сэрцу змучанаму сніцца***
***пах вясны, вішнёвы белы дым,***
***залатая сонца калясніца,***
***вольны сцяг і пераможны гімн.***
***("Залатая сонца калясніца").***

*Лідзія Савік.*

# Ракаўскай СШ - 140 гадоў

У Ракаўскай сярэдняй школы – юбілей, ды яшчэ які! 140 гадоў таму назад у мястэчку пачало працаваць народнае вучылішча, якое, мяняючы з гадамі свой воблік і назву, стала сённяшняй адзінаццацігодкай. Зразумела, і да гэтага часу далёка не ўсе ракаўцы былі непісьменныя, неадукаваныя. Так, яшчэ ў XVI – XVII ст. у Ракаве існавалі дамініканскі і базыльянскі кляштары, а пры іх – прыходскія школкі, дзе вучылі мясцовых дзетак не толькі маліцца, але чытаць, пісаць і лічыць. Тым не менш, 1863 год – "чырвоная" дата ў гісторыі свецкай адукацыі на Ракаўшчыне. Як, дарэчы, і ва ўсёй Беларусі: у гэтым годзе ў "Северо-Западном крае" па царскаму "всемилостивейшему указу" было дазвалена адчыняць народныя вучылішчы...

За сто сорак гадоў на Ракаўшчыне адзінаццаць разоў мяняліся ўлады: царская расійская, савецкая (1917), нямецкая кайзераўская (1918), зноў савецкая (1918), польская (1919-1920), зноў савецкая (ліпень 1020-сакавік 1921), зноў польская (сакавік 1921- верасень 1939), зноў савецкая (верасень 1939 – чэрвень 1941), нямецка-фашысцкая (25 чэрвеня 1941 – 5 ліпеня 1944), зноў савецкая. Нарэшце, мы сталі жыць пры ўладзе незалежнай Рэспублікі Беларусь (з 27 ліпеня 1990 г.)... У школе вучылі то па-руску, то па-польску, то па-нямецку, то па-беларуску. Аднак якая б улада, якая б мова выкладання ні былі, у пасляваенны час Ракаўская СШ была і застаецца беларускай, разумныя настаўнікі заўсёды прытрымліваліся правіла: выхаванне павінна пачынацца з Айчыны і вёсціся ў імя Айчыны. Менавіта гэта дапамагала выхоўваць не толькі будучых выдатных спецыялістаў, але і сапраўдных патрыётаў Ракаўшчыны і ўсяе Бацькаўшчыны, захоўваць саму беларускую нацыю ад духоўнай дэградацыі, асіміляцыі, русіфікацыі, паланізацыі ці германізацыі.

За сто сорак гадоў школу скончылі тысячы вучняў, толькі ў пасляваенны час (першы выпуск дзесяцігодкі адбыўся ў 1951 годзе) – звыш трох тысяч. Многія з іх уславілі родны край сваёй працай, сталі вядомымі дзяржаўнымі і палітычнымі дзеячамі, навукоўцамі, работнікамі асветы, літаратуры, культуры, ахovы здароўя, военачальнікамі. Сярод іх – Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь на Украіне Валянцін Вялічка, народны артыст Беларусі Яраслаў Еўдакімаў, в.а. рэктара Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта імя А.Куляшова доктар філасофскіх навук Міхаіл Вішнеўскі, генерал-маёр Сяргей Варэнік, контр-адмірал Зігмунд Жабко, дырэктар Віцебскага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Я.Коласа заслужаны артыст Беларусі Рыгор Шацька, прэзідэнт Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва Фелікс Янушкевіч, вядомы скульптар Валяр'ян Янушкевіч, пісьменнікі Марыя Вайцяшонак, Язэп Янушкевіч, навукоўцы прафесары і дацэнты Раман Руткоўскі, Валеры Раманчык, Тадэвуш Маеўскі, Людміла Чарнавусава і інш. Заслуга ў адукацыі і выхаванні гэтых асобаў – найперш школьных настаўнікаў, людзей мудрых, самаадданых, таленавітых, такіх як былы дырэктар школы, вядомы краязнавец (імя яго цяпер носіць школьны краязнаўчы музей) Васіль Налецкі. Знамянальна, што асобныя з ракаўскіх настаўнікаў з часам сталі кандыдатамі і нават дактарамі навук (Мікалай Мяцельскі, Аляксей і Зінаіда Зяневічы, Пётр Жураўскі, Валянцін Рабкевіч і інш.) Усё гэта ствярала і ствярае своеасаблівы культурны мікраклімат самога мястэчка, усяго Валожынскага раёна і нават шырэй – Беларусі, абумоўлівае прыцягненне да Ракаўшчыны неабыякавых да роднай гісторыі і культуры людзей.

Пра ўсё гэта гаварылася на юбілейным вечары, што адбыўся ў Ракаўскай СШ напярэдадні новага 2004 года, у выступленнях яе цяперашняга дырэктара Пятра Дубаўца, прадстаўнікоў мясцовых, раённых і абласных улад, шматлікіх гасцей – выпускнікоў школы. А яшчэ – пра сённяшнія дасягненні школы ў навучанні, спорце, грамадскай працы, мастацкай самадзейнасці, адзначаныя рознымі рэспубліканскімі, абласнымі і раённымі граматамі, прызамі, узнагародамі. Скажам, Ракаўская СШ – адзіная ў Беларусі (а, магчыма, і не толькі) вясковая школа, на базе якой ужо чатыры разы праходзілі міжнародныя краязнаўчыя навукова-практычныя канферэнцыі – Ракаўскія чытанні (у 1996-2000 гг.), на якія з'язджаюцца вядомыя вучоныя не толькі з блізкага, але і з далёкага замежжа. У прыватнасці, на гэтых чытаннях двойчы выступалі вядомы польскі беларусіст Базыль Белаказовіч і знакамітая паэтэса з Лондана, перакладчыца беларускай паэзіі на англійскую мову Вера Рыч, якая, дарэчы, прысвяціла Ракаву свой арыгінальны акраверш. Школьныя падзеі пастаянна знаходзяць адлюстраванне на старонках мясцовай шматтыражкі "Ракаўскі шлях", асобныя настаўнікі (Леакадзія Налецкая, Фаіна Салавей) з'яўляюцца сябрамі рэдкалегіі газеты. Культурную праграму чытанняў заўсёды ўпрыгожваюць выступленні папулярных школьных вакальных калектываў – класічнай "Элегіі" і фальклорнага "Вянка". Гэтыя калектывы з поўнай самаадачай выступілі і на юбілейным вечары...

Так, многа добрых слоў было сказана пра школу – і ў вусных выступленнях, і ў віншавальных тэлеграмах тых, хто не змог прыехаць на юбілей (як, напрыклад, у вялікай і цёплай тэлеграме пасла В. Вялічкі). І калі выпускнік школы 1959 года кандыдат тэхнічных навук Уладзімір Капусцін прапанаваў пераўтварыць Ракаўскую сярэднюю школу ў ліцэй – шматлюдная зала падтрымала гэту прапанову бурнымі воплескамі. Школа, несумненна, вартая гэтага.

***Вячаслаў Рагойша,***
***прафесар, загадчык***
***кафедры тэарыі***
***літаратуры БДУ,***
***выпускнік Ракаўскай СШ***
***1958 года.***

## ПРЭЗІДЭНТ БЕЛАРУСІ ПАДПІСАЎ УКАЗ АБ АРГАНІЗАЦЫІ РАБОТ ПА РЭКАНСТРУКЦЫІ ЧАСТКІ АЎГУСТОЎСКАГА КАНАЛА

Менск, 8 студзеня. Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка 8 студзеня падпісаў указ "Аб арганізацыі работ па рэканструкцыі часткі Аўгустоўскага канала".

Як паведамляе прэс-служба кіраўніка дзяржавы, у адпаведнасці з гэтым дакументам, да 1 ліпеня 2006 года неабходна ажыццявіць рэканструкцыю часткі Аўгустоўскага канала, пракладзенага па тэрыторыі Гарадзенскай вобласці, і будаўніцтва ў яго зоне пунктаў пропуску праз дзяржаўную мяжу Беларусі.

Аўгустоўскі канал уяўляе гістарычную каштоўнасць і павінен выкарыстоўвацца ў турыстычных, культурных і іншых мэтах, зазначаюць у прэс-службе. У гэтай сувязі ўраду даручана правесці падрыхтоўчыя работы па ўключэнні Аўгустоўскага канала ў Спіс сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА.

***Андрэй СЕРАДА, БелаПАН.***

# Купляйце беларускае!

Цукеркі менскай фабрыкі "Камунарка" карыстаюцца вялікім попытам. І не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі. Нічога не скажаш – выдатны ласунак. Да таго ж, што прыемна, апошнім часам у крамах сталіцы можна набыць прыгожа аздоблены сувенір "Белая Русь", дзе ўся інфармацыя падаецца на мове тытульнай нацыі краіны. Гэта і цудоўны падарунак і ўпрыгожанне святочнага стала. А мы, сябры Таварыства беларускай мовы, цешым сябе думкай, што нашыя шматлікія звароты не засталіся па-за ўвагай кіраўніцтва фабрыкі.

*Наш.кар.*

Абгортка глазураванага сырка, вытворчасці Бабруйскага гармаслазавода - прыклад паважлівых адносін вытворцы да роднай мовы. На абгортцы – ніводнага слова на іншаземнай мове. Ні нiякіх наракнняў на нейкія міфічныя эканамічныя ды іншыя цяжкасці ў афармленні пабеларуску свайго прадукту. Мяркую, трэба было б адзначыць згаданы завод праз "Наша слова".

Таксама як і выказаць падзяку кіраўніцтву Віцебскага тралейбуснага ўпраўлення за цудоўны пераклад на беларускую мову абвестак ды іншай інфармацыі, што падаецца ў мясцовых тралейбусах. Цэлы дзень, здаецца, ездзіў бы на тых тралейбусах, ды слухаў.

*В. Васілёнак.*

Цалкам беларускамоўнымі перад Новым Годам сталі цэтлікі на хлебе "Барадзінскім" вытворчасці Менскага хлебазавода № 3, за што працаўнікам завода: "Шчыры дзякуй!".

# Рэвізійнай камсісія інфармуе

Адбылося чарговае пасяджэнне рэвізійнай камісіі ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны". На пасяджэнні выступіў старшыня Рады ТБМ Алег Трусаў. Ён праінфармаваў сяброў камісіі аб плане работы грамадскага аб'яднання і рэжыме работы кіраўнічых органаў, іншых структур ТБМ, што месцяцца на цэнтральнай сядзібе ў Менску. На камісіі было заслухана інфармацыя аб поўнай інвентарызацыі маёмасці цэнтральнай Рады, якую правялі сябры рэвізійнай камісіі з намеснікам старшыні ТБМ Сяргеем Кручковым. Заўважана, што амаль уся маёмасць з'яўляецца ўласнасцю асобных сяброў ТБМ. У абноўлены спіс унесена ўся маёмасць, абноўлены нумары на ёй, а па аргтэхніцы, акрамя гэтага, зарэгістраваны заводскія нумары.

На камісіі былі размеркаваны абавязкі сяброў камісіі па наступных пытаннях:

Праверка арганізацыі і вядзення справаводства, фінансава-гаспадарчай дзейнасці (адказныя Лавіцкі, Бордак);

Праверка выдавецкай дзейнасці, выкананне планаў работы, рашэнняў з'езду, Рады, Сакратарыяту (адказны Ялугін);

Праверка арганізацыі ўліку сяброў, выканання статутных патрабаванняў, дзейнага заканадаўства (адказныя Качаноўская, Галай).

За прамінулы час да напісання гэтай інфармацыі, ў рэвізійную камісію не паступала ад сяброў ТБМ лістоў, заяў ці прапаноў.

Рэвізійным камісіям рэгіянальных арганізацый, рэвіворам суполак ТБМ прапаноўваецца ў студзені правесці праверкі выканання статуных абавязкаў сябрамі Таварыства па ўплаце складак, своечасовага правядзення сходаў, пасяджэнняў кіраўнічых органаў.

*Старшыня Рэвізійнай камісіі ТБМ Мікола Лавіцкі.*

---

**Секретариат**
**Конституционного Суда**
**Республики Беларусь**

ул. К. Маркса,32
220016,г. Минск
тел. (017) 227-52-09,
факс (017) 227-80-12
E-mail: ksrb@user.unibel.by

**Сакратарыят**
**Канстытуцыйнага Суда**
**Рэспублікі Беларусь**

вул. К. Маркса,32
220016,г. Мінск
тэл. (017) 227-52-09,
факс (017) 227-80-12
E-mail: ksrb@user.unibel.by

24.12.03 г. № 05-08/81-580

**Старшыні грамадскага аб'яднання**
**"Таварыства беларускай мовы**
**імя Францішка Скарыны"**
**спадару А.А. Трусаву**

**Паважаны Алег Анатольевіч!**

Ваш зварот аб ініцыяванні Канстытуцыйным Судом перад дзяржаўнымі органамі і службовымі асобамі, якія маюць права на зварот у Канстытуцыйны Суд, прапаноў аб праверцы канстытуцыйнасці пастановы Міністэрства адукацыі ад 28 чэрвеня 2003 г. № 63, разгледжаны.

У сувязі з гэтым паведамляем, што ў адпаведнасці з часткай чацвёртай артыкула 6 Закона "Аб Канстытуцыйным Судзе Рэспублікі Беларусь" грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" можа непасрэдна выступіць з адпаведнай ініцыятывай перад дзяржаўнымі органамі ці службовымі асобамі, якія валодаюць правам на ўнясенне прапаноў аб праверцы канстытуцыйнасці нарматыўных прававых актаў.

З павагай

**Начальнік Сакратарыята У. І . Жышкевіч.**

**Конституционный Суд**
**Республики Беларусь**

ул. К. Маркса,32
220016,г. Минск
тел. (017) 227-52-09,
факс (017) 227-80-12
E-mail: ksrb@user.unibel.by

**Канстытуцыйны Суд**
**Рэспублікі Беларусь**

вул. К. Маркса,32
220016,г. Мінск
тэл. (017) 227-52-09,
факс (017) 227-80-12
E-mail: ksrb@user.unibel.by

[illegible] № 05-08/80-591

**Старшыні грамадскага аб'яднання**
**"Таварыства беларускай мовы**
**імя Францішка Скарыны"**
**спадару А.А. Трусаву**

**Паважаны Алег Анатольевіч!**

Ваш зварот па пытаннях унясеня змяненняў і дапаўненняў у Закон "Аб Канстытуцыйным Судзе Рэспублікі Беларусь", якія прадугледжвалі б увядзенне інстытута канстытуцыйнай скаргі, разгледжаны, і ў связі з гэтым паведамляем наступнае.

Канстытуцыйным Судом былі падтрыманы рэкамендацыі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, якія былі прыняты па выніках парламенцкіх слуханняў 30 чэрвеня 1998 г., аб неабходнасці ўвядзення інстытута канстытуцыйнай скаргі ў Рэспубліцы Беларусь. У Пасланні Канстытуцыйнага Суда Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнаму сходу Рэспублікі Беларусь "Аб стане канстытуцыйнай законнасці ў Рэспубліцы Беларусь у 1998 годзе" ад 29 студзеня 1999 г., у прыватнасці, падкрэслена, што "заканадаўчае замацаванне права грамадзян звяртацца з канстытуцыйнай скаргай адпавядала б мэтам усебаковай абароны правоў чалавека і грамадзяніна". У Пасланнях Канстытуцыйнага Суда Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнаму сходу Рэспублікі Беларусь за 1999, 2000 і 2001 гг. адзначана неабходнасць рэалізацыі грамадзянамі права на зварот ў Канстытуцыйны Суд на рашэнні мясцовых Саветаў, выканаўчых і распарадчых органаў, якія абмяжоўваюць або парушаюць правы, свабоды і законныя інтарэсы грамадзян (артыкул 122 Канстытуцыі), а таксама аб магчымасці прадастаўлення права на зварот ў Канстытуцыйны Суд Упаўнаважанага па правах чалавека, калі такі інстытут будзе ўведзены ў Рэспубліцы Беларусь.

У цяперашні час Канстытуцыйны Суд на падставе артыкулаў 40 і 122 Канстытуцыі разглядае звароты грамадзян са скаргамі на рашэнні мясцовых Саветаў выканаўчых і распарадчых органаў.

Змяненні ў Закон "Аб Канстытуцыйным Судзе Рэспублікі Беларусь", якія прадугледжваюць магчымасць для грамадзян ўносіць прапановы па праверцы канстытуцыйнасці нарматыўных прававых актаў, не ўносіліся.

З павагай

**Намеснік Старшыні А. В. Марыскін.**

## КАЛЯ САРАКА ТВОРЧЫХ КАЛЕКТЫВАЎ СТОЛІНСКАГА РАЁНА ЎЗЯЛІ ЎДЗЕЛ У НАРОДНЫМ СВЯЦЕ "КАЛЯДА"

Каля 40 творчых калектываў Столінскага раёна ўзялі ўдзел у народным свяце "Каляда", якое 7 студзеня прайшло ў Століне (Берасцейская вобласць).

Калядныя гулянні ў Століне праводзяцца ўжо больш за дзесяць гадоў і сталі традыцыйнымі. Для іх адводзяць самую галоўную плошчу горада — Камсамольскую. Святкаванні праходзяць таксама і ў мікараёнах горада. Адна з канцэртных пляцовак размешчана насупраць райвыканкама.

*Сяргей СЯРОЎ, БелаПАН.*

## ПАДЗЯКА

"Гарадзенская абласная арганізацыя ГА ТБМ імя Францішка Скарыны выказвае шчыры дзякуй кіраўнікам фірм: "Свідравіна" **Зылькову Сяргею Паўлавічу**, "Кантактэлектра" **Шчыгмінскаму Мікалаю Станіслававічу** і індывідуальнаму прадпрымальніку **Галянеўскаму Юрыю Генрыхавічу** за фінансаваную дапамогу пры падпісцы на І поўгоддзе 2004 года газеты "Наша слова" для 50 сельскіх бібліятэк і сярэдніх школ Гарадзенскай вобласці".

**Ад імя абласной**
**Рады ТБМ імя Ф.Скарыны**
**Алесь. Місцюкевіч.**

# Калядная вечарына ТБМ у Полацку



Полацкая гарадская арганізацыя Таварыства беларускай мовы сабрала сваіх найбольш актыўных сяброў на Калядную вечарыну. Імпрэза адбылася ў чытальнай зале бібліятэкі імя Янкі Купалы. Быў арганізаваны шырокі продаж беларускай літаратуры і збор подпісаў за годнае ўшанаванне памяці выдатнага сына Беларусі Васіля Быкава на Віцебшчыне. Вяла вечарыну старшыня полацкай суполкі Лера Сом.

На самым пачатку святочнага вечара ўсім прысутным былі ўручаныя маленькія, але прысмныя падарункі – прыгожыя каляндарыкі на 2004 год з выявай Полацкай Сафіі і сімволікай Таварыства. Выпуск іх стаўся магчымым дзякуючы дабрачыннай дапамозе Полацкага паліграфічнага прадпрыемства "Спадчына Скарыны", а мастацкі фатаздымак ласкава прэзентаваў для агульнай справы Віктар Мікалаевіч Ушак, загадчык Полацкага аддзела культуры. Цудоўныя беларускія калядныя песні праспявалі парафіяне мясцовай грэка-каталіцкай грамады, а змястоўны каментар да іх дадаў святар айцец Лявонці. Налакно" выступіў Уладзімір Яцкевіч. Нікога не пакінулі абыякавымі выступы запрошаных на вечарыну сяброў літаратурнага аб'яднання "Наддзвінне" Зміцера Куніцкага, Валянціны Караван, Мікалая Балдоўскага, Вольгі Дук, а таксама літаратараў Валерыя Старынкага з Наваполацка і Людмілы Савасцеевай. Стваральнік Таварыства Вольных Літаратараў Алесь Аркуш заклікаў сяброў ТБМ звярнуць увагу на краязнаўчую работу і стварыць падрабязны летапіс полацкіх падзей мінулага складанага і страшнага стагоддзя. Памастацку прачытаны верш Ларысы Геніюш быў унёскам у вечарыну знанай полацкай тэатральнай рэжысёркі і актрысы Валянціны Нагорнай. А скончылася

| | Студзень | Люты | Сакавік | Красавік | Травень | Чэрвень |
|---|---|---|---|---|---|---|
| п | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 |
| а | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 |
| с | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 |
| ч | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 |
| п | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 |
| с | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 |
| н | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 |

ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ЗЫЧЫЦЬ ВАМ ШЧАСЛІВЫХ СВЯТАЎ У НОВЫМ ГОДЗЕ

2004

ШАНУЙЦЕ РОДНУЮ МОВУ! УСТУПАЙЦЕ У ТБМ!

Полацкая суполка ТБМ выказвае шчырую падзяку за дабрачынную дапамогу Полацкаму паліграфічнаму прадпрыемству "Спадчына Скарыны" і В.М.Ушаку за фотаздымак

| | Ліпень | Жнівень | Верасень | Кастрычнік | Лістапад | Снежань |
|---|---|---|---|---|---|---|
| п | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 |
| а | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 |
| с | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 |
| ч | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 |
| п | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 |
| с | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 |
| н | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 |

стаўніца сярэдняй школы № 1 Вольга Тумаш распавяла пра тую працу, якую вядуць беларусаведы школы па прапагандзе роднай мовы і культуры. Са спавешчаннем пра дзейнасць суполкі ТБМ буйнейшага ў горадзе прадпрыемства "Шкловаімпрэза агульнымі спевамі – удзельнікі праспявалі разам вядомую песню-гімн, песню-малітву "Магутны Божа" на словы Наталлі Арсенневай.

*Алена Красоўская, г. Полацк.*

**Адказы на крыжаванку са ст. 12.**

**Па гарызанталях:** 2.Ажына. 4.Верас. 6.Дуток. 9.Альяс. 10.Зух. 11.Кіт. 12.Вавёрка. 16.Куля. 18.Палі. 20.Даведка. 21.Дамо. 22.Рэха. 24.Вядзёны. 25.Біце. 26.Няма. 27.Мур. 28.Склад. 29.Але.

**Па вертыкалях:** 1.Жыцьцё.2.Асада. 3.Адсек. 4.Вазон. 5.Рух. 7.Тук. 8.Кутні. 12.Вядовец. 13.Выведнік. 14.Рыдлёўка. 15.Апарына. 17.Ува. 19.Лях. 21.Дубам. 23.Адале.

**Спадару А.Д. Мартыненку**
**Намесніку Старшыні Нацыянальнай дзяржаўнай**
**Тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь**
**Вул. Макаёнка 9, Мінск 220807**

**Паважаныя кіраўнікі НДТ!**

Віншуем Вас з Калядамі і Новым Годам! Жадаем Вам у наступным годзе больш уважліва ставіцца да ўжывання на першым тэлеканале дзяржаўнай беларускай мовы, роднай мовы тытульнай нацыі нашай старажытнай краіны. Мы ўжо пісалі Вам, што ў сваёй працы трэба кіравацца не сумніўнымі апытаннямі, а вынікамі апошняга перапісу насельніцтва, паводле якога большасць грамадзян Беларусі назвалі сваёй роднай мовай беларускую.

Мы актыўна супрацоўнічаем з тэлеканалам "ЛАД", але гаворка ішла і ідзе пра мову навін першага тэлеканала, якая заўжды была беларускай, пачынаючы з савецкіх часоў. Таму сотні тэлегледачоў звяртаюцца да нас з просьбай абараніць іх канстытуцыйнае права атрымліваць інфармацыю на роднай мове менавіта на Вашым канале, бо ён адзіны вяшчае на тэрыторыю ўсёй Беларусі і, нават, прамаецца ў Літве і Польшчы.

Дарэчы, сваю падтрымку ў гэтым пытанні нам выказалі Канстытуцыйны Суд Беларусі, міністр інфармацыі і адміністрацыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Таму прапануем Вам вярнуць вяшчанне навін на беларускую мову, якую наш славуты зямляк Адам Міцкевіч назваў адной з самых прыгожых славянскіх моваў свету.

З павагай

**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Алег Трусаў.**

**Шаноўныя сябры ТБМ!**

Мы просім падтрымаць зварот старшыні ТБМ да кіраўніцтва Нацыянальнай дзяржаўнай Тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь сваімі подпісамі. Сотні, а, яшчэ лепш, тысячы подпісаў зробяць гэты зварот больш важкім.

Старшыні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь
**Рыбакову Яўгену Уладзіміравічу**
Вул. Макаёнка, 9, г. Мінск, 220807

Мы, грамадзяне краіны, глыбока абураныя скарачэннем часу беларускамоўнага вяшчання на Беларускім тэлебачанні, у прыватнасці – амаль поўным выключэннем беларускай мовы з навінаў.

**Патрабуем:**

- спыніць дыскрымінацыю пераважнай большасці нашых суайчыннікаў, якія паводле перапісу насельніцтва 1999 года назвалі сваёй роднай мовай беларускую;
- аднавіць навіны на беларускай мове ў поўным аб'ёме;
- пастаянна клапаціцца пра пашырэнне беларускамоўнага вяшчання на Беларускім тэлебачанні.

| № | Прозвішча, імя | Адрас пражывання | Дата падпісання | Подпіс |
|---|---|---|---|---|
| 1. | | | | |
| 2. | | | | |
| 3. | | | | |
| 4. | | | | |
| 5. | | | | |
| 6. | | | | |
| 7. | | | | |
| 8. | | | | |
| 9. | | | | |
| 10. | | | | |
| 11. | | | | |
| 12. | | | | |
| 13. | | | | |
| 14. | | | | |
| 15. | | | | |
| 16. | | | | |

С. Квецень

# ШЛЯХ: ТВАРЫ. ДУМКІ. ГАЛАСЫ.

## (Рыфмаваная гісторыя ў адценнях беларускага духу)

*(Працяг. Пачатак у папяр. нум.)*

### 29. СВАРА

Што ж, дайшло урэшце да душы.
Як паўстаў Ягайла над усімі.
Твар аб твар ударылі крыжы
У малітвай сцішанай краіне.

І дагэтуль неба галасы
Розумы штурхалі заўтрапёна.
Ды маланкі грозныя гасіў
Нетаропка дрэў простар зялёны.

Толькі нейкі злосны прайдзісвет
Ад таго даўно не меў спакою.
Кінуў іскру ў годны дом сусед –
Лепшыя ўспалымнелі пакоі.



Клікалі трывожныя званы...
Ды не за бацькоўскі
крыжык медны
Ў храме перабіліся паны –
З-за таго, каму служыць абедню.

Хіба толькі грэцкае сяўво –
Праз усё жыццё было ў апале.
Дык гарой стаялі за сваё,
Вартым імем здраду называлі:

Марна нечысці
набегла стрымгалоў,
Каб пашкодзіць
спадцішка Айчыне.
Не захлынуць рускіх берагоў
Сквапнай
чужаземшчыне – лаціне.

Ці здалёку ў нас гаспадары
І зусім зняуджылі мы, браце?
У цябе, Літва, праваднры
Ёсць і апрача няўдзячных зяцяў.

Не засыпле попел вугалі,
Як сівая зморанасць – валоссе.
Трохі духу крыўскага ў зямлі
І пасля нягодаў засталося.

А крумкач дарэмна ашалеў,
Мёртвае шукаючы начынне
Вітаўт ёсць у нас – адважны леў,
Неўтаймаваны сын Айчыны.

Ой, не ў час, славяне, гром-мяжа
Падзяліла кут гарачым варам.
Не змірыўся ў логаве крыжак
І не супакоіўся татарын.

Выратуй жа думку, пільны зрок.
Дрэнная нам выпадзе прыгода,
Як у іншаземны вабны бок
Кінемся ад роднага народа.

Абярэм для пекла лёс такі.
Прыкра будзе на апошнім балі:
Гэтак няшчаслівa, землякі,
Выйсці ў людзі мы паспрабавалі.

### 30. ВІТАЎТ

Такі ўдалы шлях перасёк.
Адольваў да ўлады дарогу
Арліны пранізлівы зрок
На погляд заменьваў строгі.



Было карацей напрасткі
Ляцець па Айчыне барвянай.
З канца аднаго ў другі
Кідаўся, неўтаймаваны.

Ды рыцара палкая жарсць
Гарэла ва ўладніку часу
Няроўна. Не грэбаваў князь
Хаўрусам з крыжацкай заразай.

Лілася страшэнная кроў.
Дык хібіў і нораў ільвіны.
Дзеля краіны – сыноў
Дваіх у заклад ён пакінуў.

Пасунуў у пашчу пятлі,
На кару бязлітаснай рады.
Забілі тэўтоны, калі
Ім здрадзіў блуканец улады.

Але не тады ён спакой
Згубіў, а пасля крэўскай пасткі.
Бо нешта не тое яго
Брацельнік выкручваў дзівацкі.

Ды марнай была мітусня
Ядвіжынага Ўладзіслава.
Літва праваслаўная ўся
За Белага князя стаяла.

Да твару нам – дар даўніны
(Чым бездань
між вамі замовіць?):
Прыроджаны віцязь вайны,
Дзяржаўнасці нашай улюбёнец.

А славы бліжэй да Дняпра
Было ў Ягайлы нягуста.
Літоўскага ж уладара
Імя не сыходзіла з вуснаў.

Ды помнілі зоркі грахі,
Трывожылі на небасхіле...
Татары ля Ворсклы-ракі
На рыцарстве князя зlавілі.

Нялаcкавы быў неспадзеў...
Што ж! Пасумаваў І паахаў.
І трохі ўжо і пацішэў
Ён ля задаволеных ляхаў.

А тыя тады пакрысе
Да горла з лацінаю лезлі.
Няйнакш узыходзіў пасеў
Чужацкі – але яшчэ чэзлы.

Клявалі хаця жаніхі,
Пасадцы – на Рыма залёты,
Заходнія ў княстве вярхі
Сціскала карэннем Усходу.

Мацнеў князь русін грамадой.
І хутка фартуны пагарду
Адолеў адвагай сваёй
На полі суровым Грунвальда.

Даў ворагу ў зубы ражном,
Вялікі ўзнёс краю хорам.
Разбегліся межы ажно
Імкліва ад мора да мора.

Каго не пужала напасць
Ад джала літоўскага стрэлу!
Амаль да Масквы горды князь
Грымеў на Русі аслабелай.

Задоўга яшчэ адчуваў:
Радзіма ад звадак загіне.
Балела яго галава,
Як цэрквы злучыць у краіне.

Магутны меў прыкладам след -
Саму чарадзееву справу.
Так сонца не зладзіць сусвет,
Як сцэментаваў ён дзяржаву.

Праславіў Айчыны зямлю
Навек з дапамогаю Божай.
Ды прагнуў усё славалюб
Пашаны ад Захаду большай.

Якая маніла лухта
Героя да самага скону!
Нічога ён так не жадаў.
Як каралеўскай кароны.

Стаміўся сто першы ганец,
Люцыпара стаўшы пацехай.
Нарэшце. У Вільню вянец
З далёкага краю паехаў.

Чакалі крыжы і званы.
Загадкавыя камяніцы.
Славутае свята зямлі
Там мусіла хутка адбыцца.

Адчуў Бог малітваў агонь.
Ды ворагі тож не сляпыя.
Дабіліся ляхі свайго –
Бясцэнны ўбор захапілі.

І ўсё, як спусціў да граша,
Сагнуўся ад гэтага стрэлу.
Не вытрымаў страты – душа
У Божы прастор адляцела.

Які быў з блакіту шацёр!
Дык з-за пірамiды разбіўся...
Усё ўзыходзіў жыццё –
З апошняй прыступкі зваліўся.

### 31. ПАГОНЯ

Камусьці ж зямля прызначала
цяжэйшую ношу.
Былі пасярэднія людзі
пад сонцам здаўна.
Ляжала краіна, Літва наша
на раздарожжы.
Ніводны нас ласкай гарачаю
не абмінаў.
Як быццам хто ад нараджэння
закляў і сурочыў,
Нядобрыя загадзя тут
раскідаўшы сляды.
Ужо ж, непакоілі вас,
ненаедныя вочы,
Азёры, лясы, ля задумлівых рэк –
гарады.
Прыходзілі з розных бакоў
пекла змрочныя здані,
І край наш, абпалены
і зруйнаваны цямнеў.
Як часта трывожна ўрывалася
ў думкі пытанне –



Ці быць на зямлі нам
такой непаўторнай, ці не?
Не дыхаць свабодна ёй
у палыновым палоне.
Што вочы раскажуць
пра сонца і неба ўначы?
Склікалася княскаю воляй
набатнай "Пагоня"
Адзін да другога збіраліся
людзі, мячы.
Гучаў за спіной родны голас
у злую часіну-
Маліў ён трымацца
і ледзьве жывым на кані.
І валам крутым уздымалася
з долу Айчына –
Узносіла хваляю
барва пралітай крыві.
Бурліла Радзімы рака
непакорнаю стромай.
Клінкоў высякаліся
гнеўныя іскры. І зноў –
Гнаў ворага, быццам
драпежніка, вершнік чырвоны,
Свяшчэннай зямлі сваёй вечнай
пунсовы анёл.
Ён бачыўся доўга няўтольнаму
гордаму зроку,
Скрозь час з ім быў той жа
славуты няспынны ўзлёт:
"Пагоня" – усебеларуская
наша сутока,
"Пагоня" – імклівае полымя
за гарызонт.

### 32. КРЫЖ

Сонцу нат няміла аднаму
За туману шэраю пялёнкай.
Зводзіла паганскую Літву
З рускай праваслаўнаю
старонкай.

Не знаходзіў сіл сярод замоў,
Крыжу саступаў дзікунскі нораў.
З урачыстых плошчаў гарадоў
Купалы паўзносілі саборы.

За сабой вялі манастыры
У сапраўдны свет
першапраходцаў.
Мелі за сябе валадары
Грэшныя, надзейных малітоўцаў.

Але ўсход ударыў з-за пляча –
І да храмаў падышлі магілы.
Турак ды татараў саранча
Моц вялікай веры надламіла.

Замарудзіў ранішні пасеў
І з паганцам не паспеў
сустрэцца.
Дык жадаў лацінскі наш сусед
Уварвацца на пустое месца.

Як драпежнік, чуйны на туман,
На закон заходні ласкі Божай
Ускладаў надзеі польскі пан,
Аб уладзе марачы і грошах.

Ласы дух не ведаў берагоў,
Ды хацеў смачнейшых караваяў.
І нарэшце час прыйшоў яго
У напаўпаганскім гэтым краі.

Тут агонь развейвала на дым,
Твар не гнула выскалам
ільвіным.
Сціплым чуўся твой хрысціянін.
О, лясная дзіўная краіна.

Нават уладар – Ягайла-князь –
Здрадзіў за жанчыну і карону.
Мусіць, добры быў ён
ляшскі зяць,
Ды не бацька кінутаму дому.

Наставала цьмяная слата
Ды паноў разлад і шлях каравы.
Што Ягайла! Тут уся Літва
Хруснула –
спакуснік ведаў справу.

### 33. ЛАЦІНА

Не застывала на парозе смірна –
Як склізкі чорт у поўную дзяжу,
Залазіла зачэпіста, настырна
Лаціна ды ў тутэйшую душу.

Кудысці ў глыбі звала і за далі,
Зводзячы ад дробнай мітусні,
Сабе касцёлы думкі забіралі
Загадкавымі вежамі сваімі.

Пакуль пашкадаваным
ці адпетым –
Быў у палоне чалавек Русі.
Аргана хвалі цяжкія над светам
Яго, амаль бяссільнага, няслі.

У тых валах
паміж зямлёй і небам
З мінулым будучы змыкаўся час.
Было не развітацца
з вечным склепам,
Не выйсці з-пад навіслага мяча.

Нашто ён, свет нікчэмны
і нязбытны?
О, з вамі разам,
брат наш і сястра,
Шапталі люду доўгія малітвы
Апосталы з-пад нішы алтара.

Жаданні адыходзілі благія,
Рабіў крылатым
незямны працяг.
Святая Дзева Божая Марыя
У слабых расцякалася грудзях.

І закрануў прастор
вялізны, вечны
Спакой як бы абмытага чала.
А голас спавядальніка сардэчны
Агортываў салодка спакваля.

Спасцігнула лацінская пяшчота
Вялікія магчымасці свае.
Як з гэтым ціхім
гаварыць народам –
Ніхто не ведаў лепей за яе.

Куды на раздарожжы
дому дзецца –
Стаіць здавён,
як мроісты вятрак.
Не абмінае ўражлівае сэрца
Яшчэ адзін настойлівы скразняк.

*(Працяг у наступным нумары.)*



(Працяг. Пачатак у папяр. нумары.)

**Алесь Петрашкевіч**

# Развітанне з Радзімай

## Драма ў дзвюх дзеях

***Кацярына ІІ** (холадна).* Мы ставім задачы рэальныя... *(Да Рапніна.)* Пры перамовах з каралём прускім, князь, падкрэсліце, што мы з ім яшчэ да смерці Аўгуста ІІІ былі згодны на абранне караля Польшчы з Пястаў, таму без далейшых акалічнасцяў мы прапануем яго вялікасці паміж Пястамі такога, які больш за іншых будзе абавязаны яго вялікасці і нам за тое, што мы для яго зробім. Калі яго вялікасць згодны,то гэта стольнік літоўскі граф Станіслаў Панятоўскі. І вось мае прычыны: з усіх прэтэндэнтаў на карону Каралеўства і Княства ён мае найменш сродкаў атрымаць іх, значыць, найбольш будзе абавязаны тым, з чыіх рук ён іх атрымае. І яшчэ, няхай кароль Фрыдрых не здзіўляецца руху войскаў на нашых межах: гэта ў сувязі з маімі дзяржаўнымі правіламі. Усякая смутазамятня нам не жаданая, і мы палымяна жадаем, каб вялікая справа вырашалася спакойна.

А цяпер толькі вам, мае аднадумцы і паплечнікі, і выключна сакрэтна. Вялікая справа заключаецца ў тым, што па ўказу нашаму прэзідэнт ваеннай калегіі генерал-аншэф Чарнышоў распрацаваў праект аб далучэнні да Расіі і лепшага акруглення і бяспечнасці граніц рэкамі Дняпром і Дзвіною некаторых, пакуль, зямель. Першым рухам нашых войскаў быць з боку тых мясцін, аб якіх у праекце паказана. Мы зробім акружэнне па рацэ Дзвіне і , злучаючы апошнюю ад Полацка на Воршу з Дняпром і да Кіева, захопім па гэты бок Дзвіны Крайцбург, Дынабург і ўсю Ліфляндыю, Полацк і Полацкае ваяводства, Віцебск і Віцебскае ваяводства, на гэты бок ад Улы да Воршы, і ад Воршы, Магілёў, Рагачоў, Амсціслаўскага ваяводства ўсе землі, што ляжаць на гэты бок Дняпра і па Дняпры да нашых цяперашніх межаў.

***Рэпнін.*** Геніяльна, ваша вялікасць! Геніяльна!

***Кацярына ІІ.*** Падставай захопу гэтых тэрыторый будзем лічыць рух нашых войскаў з прычыны абрання каралеўскага; права на гэта мы бачым у парушэнні дагавораў і невыкананні справядлівых патрабаванняў Расіі ад польскага боку.

У падтрымку Чартарыйскім супраць Радзівілаў і Патоцкіх неадкладна шлю войскі на чале з генерал-маёрам Роненкампфам, князем Дашковым і князем Валконскім.

І некалькі агульных меркаванняў... Пасля каранацыі, якую будуць кантраляваць нашы войскі, мы пастаянна будзем захоўваць слабасць польскай рэспублікі. Мы будзем перашкаджаць яе рэформам. Для гэтага і спатрэбіўся кароль-марыянетка.Будзем спадзявацца, што гэту ролю выканае прыручаны намі Станіслаў Панятоўскі. З яго дапамогай, а дакладней, праз яго мы нарэшце давядзем Рэч Паспалітую двух народаў да поўнай страты незалежнасці. Мы здолеем унушыць нашай сілаю, што яна вельмі слабая для існавання без падтрымкі магутнай Расіі.

Многія палякі абурацца новым каралём: магнаты — з-за таго, што кароль не належыць да іх кола, і паходзіць з роду, які адносна нядаўна набыў знакамітасць; другія ўспрацівяцца яго рэформам; трэція будуць помсціць яму за прарасійскія пазіцыі. Тым часам мы будзем паслядоўна і настойліва па частках далучаць Княства і само Каралеўства да вялікай Расіі.

На гэтым рандэву скончым. Князю Рапніну — у дарогу. Віца-канцлеру Астарману ды іншым — за вялікую работу, якая, мы так думаем, будзе прадаўжацца не адзін, не два і, можа, нават не тры гады.

З Богам, мае верныя рыцары.

***Рапнін.*** Даруйце, ваша вялікасць, але сёння не была звернута належная ўвага на вельмі важную акалічнасць, звязаную з Казімірам Агінскім. І калі б вы дазволілі...

***Кацярына ІІ.** (незадаволена).* Гаварыце, князь...

***Рапнін.*** Ваша імператарская вялікасць ведае, які высокім аўтарытэтам і ўплывам у Рэчы Паспалітай карыстаецца, як там кажуць, адзін з самых важных грамадзян гетман Вялікага Княства Літоўскага Міхал Казімір Агінскі. Рыцарскія доблесці, еўрапейская адукацыя, гаспадарчыя здольнасці, улюбёнасць і поспехі ў музычным мастацтве і нават яго каларытныя выхадкі не лепшага кшталту падабаюцца не толькі магнатам і шляхце, але і чэрні. І вядома, што чалавек, які ўзначальвае войска Княства, прэтэндуе на Каралеўства. І калі гэтаму не перашкодзіць...

***Кацярына ІІ** (да Остармана).* Вашы меркаванні, віца-канцлер?..

***Остарман.*** Мне думаецца, ваша вялікасць, што нягледзячы на абаянне і грамадзянскае прызнанне і тое, што Міхал Казімір бачыць сябе вялікім князем і каралём, ніхто, акрамя яго самога, усур'ёз гэта не ўспрымае.

***Рапнін.*** Даруйце, але калі эксцэнтрычны Міхал Казімір, не дай Бог, стаў бы каралём і вялікім князем, то і Каралеўства і Княства спусціў бы з малатка, як спусціў лепшую частку сваёй маёмасці на музыку. Але тое што за плячыма ў гетмана вялікага княства ўзброеная частка гэтага княства...

***Кацярына ІІ.*** Эксцэнтрычны аптымізм Казіміра нерэдка прыводзіў яго, як мы ведаем, да спарадычных прыліваў энтузіязму. Вось і зараз ён рашыў стаць венцаносным. Абяцаю вам уберагчы яго ад кароны і захавць для музыкі.

Дык з Богам жа ў добры час!..

*Усе ўстаюць. Рапнін і Остарман раскланьваюцца і выходзяць. Кацярына ІІ некаторы час стаіць у задуменні, потым звоніць у званок. З'яўляецца цырымоніймайстар.*

Пакліч, мой харошы, князя Станіслава Панятоўскага.

*Цырымоніймайстар кланяецца і выходзіць.*

*Кацярына ІІ зморана садзіцца на канапу, адкідвае галаву, заплюшчвае вочы.*

*Уваходзіць Панятоўскі.*

*Святло паволі згасае.*

### ІІ

*Той жа пакой Кацярыны ІІ. Царыца каля люстра. Яна ў добрым настроі. Перад адным з крэслаў стаіць арфа, на другім ляжыць кларнет, на трэцім — скрыпка і смычок.*

*Адкрываюцца дзверы, з'яўляецца цырымоніймайстар.*

***Цырымоніймайстар.*** Ваша імператарская вялікасць! З аўдыенцыяй гетман вялікі Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага Міхал Казімір Агінскі.

*Уваходзіць высокі, стройны прыгажун гадоў 33-х у дарагім еўрапейскім гарнітуры. Стрымана кланяецца. Кацярына ІІ ідзе яму насустрач, вітаецца цёпла і прыязна як са старым знаёмцам. Запрашае сесці на свабоднае крэсла, сама садзіцца на канапу насупраць.*

***Кацярына ІІ.*** Мы так даўно не сустракаліся. А я так многа цікавага і добрага чула пра вас, Міхал Казімір. Рада, вельмі рада нашай сустрэчы. Як даехалі?.. Як настрой, самаадчуванне гетмана вялікага?

***Агінскі.*** Дзякуй, вялікая царыца. Я — чалавек вайсковы. Мяне не бянтэжаць любыя дарогі. Настрой, самаадчуванне, як ў чалавека, якому пашчасціла і якога чакала сустрэча з вялікай і слаўнай імператрыцай-асветніцай, перад якой еўрапейскія дзяржаўцы і філосафы схіляюць галовы.

***Кацярына ІІ.*** Чую вашы высокія словы і свае тытулы, а сама зайздрошчу белай зайздрасцю і не Агінскаму гетману вялікаму, а Міхалу Казіміру — выдатнаму кампазітару і музыканту-віртуёзу, што пакарыў сваім талентам парыжскую патрабавальную публіку.

***Агінскі.*** Не ведаю, ваша светласць, што і сказаць на такую завышаную пахвалу, але ж эпоха асветы і асветніцтва патрабуюць нашых ахвяр...

***Кацярына ІІ.*** Манаршая пахвала ніколі не бывае завышанай, але...

***Агінскі** (усміхаючыся).* Але ж "але", ваша вялікасць...

***Кацярына ІІ.*** "Але" толькі ў тым сэнсе, што прашу вас і мне засведчыць ваша майстэрства.

***Агінскі.*** І таму тут арфа, кларнет і скрыпка?..

***Кацярына ІІ.*** Толькі таму і не з царскай прыхамаці, а толькі з павагі да маэстра.

***Агінскі.*** Скажу шчыра, ваша вялікасць, ад вашага запрашэння я чакаў, што хочаце, толькі не арфу, кларнет ды скрыпку, любыя майму сэрцу, пры карыстанні якімі я хоць на час забываю пра гетманскую булаву.

***Кацярына ІІ.*** Мілы Міхал Казімір, Бог з ёю, з вашай булавой, а за арфай, кларнетам ды скрыпкай нічога іншага, акрамя просьбы падараваць мне тры вашы паланезы ў вашым выкананні. Ці вы думаеце, што мая булава мне не абрыдла. Ці ўявілі, што манаршая душа ніколі не просіць музыкі?.. *(Амаль капрызна.)* Урэшце... я жанчына...

***Агінскі.*** Схіляю галаву перад імператрыцай-жанчынай. *(Устае з крэсла, кланяецца. Потым садзіцца за арфу, грае паланез. На скрыпцы і кларнеце грае другі і трэці.)*

*Зачараваная музыкай, Кацярына ІІ доўга сядзіць моўчкі, потым устае з канапы.*

***Кацярына ІІ.*** Дарагі мой госць, вы зачаравалі мяне вашымі паланезамі, здзівілі сваім выканальніцкім майстэрствам. І заслугоўваеце маёй высокай узнагароды.

*Звоніць у званок . З'яўляецца Цырымоніймайстар з залатым падносам, на якім ляжыць дарагая шкатулка і стаяць два келіхі шампанскага.*

*Кацярына ІІ бярэ са шкатулкі ордэн Андрэя Першазваннага іпрышпільвае яго на штрыфель сюртука Агінскага. Абодва бяруць келіхі.*

Ваша здароўе, вялікі маэстра!..

***Агінскі.*** Ваша здароўе, вялікая імператрыца!

*Прыгубіўшы з бакалаў, ставяць іх на паднос. Цырымоніймайстар выходзіць. Кацярына ІІ запрашае госця сесці ў крэсла, сама садзіцца насупраць. Іх падзяляе невысокі столік і кветкі ў дарагой вазе.*

***Кацярына ІІ.*** Не ўяўляю, не разумею, як можна дасягнуць такой высокай дасканаласці ў майстэрстве, якім валодае ваш геній.

***Агінскі.*** Не перабольшвайце, ваша вялікасць. Як няма майстэрства без практыкаванняў, так і практыкаванняў без майстэрства.

***Кацярына ІІ.*** Залішняя сціпласць, мой сябар. Вамі кіруе, вас вядзе геній! Хоць розніца паміж розумам і геніем, як сцвярджае мой сябар Жан Жак Руссо, у тым, што першы амаль заўсёды прысутнічае, тады як другі часта зыходзіць. Заклінаю, пакіньце ўсё, кіньце сваю булаву, толькі не музыку. Беражыце, лялейце ваш Божы дар музычны, як і шырыню, і глыбіню розуму, сілу ўяўлення прыгожага і актыўнасць душы. Усе вялікія намаганні, як мне здаецца, усе ўзнёслыя парывы належаць толькі душам пылкім і ўзнёслым. Халодныя душы і розум ніколі не здзяйснялі нічога цудоўнага. Музыка — найвышэйшае з усіх мастацтваў. Ахвяруйце ёй ўсё, і Бог узнясе вас на вяршыню славы.

***Агінскі.*** І ўсё ж, як я лічу, найвышэйшае з усіх мастацтваў, ваша вялікасць, мастацтва кіраваць, кіраваць дзяржаваю, і Бог адзначыў вашу вялікасць у гэтым мастацтве і майстэрстве.

***Кацярына ІІ.*** Тут ужо — што каму. *(Смяецца.)* Не ведаю, што галоўнае ў іншых мастацтвах, а ў маім — прынцыпы і інтэрэсы Расіі. Я свае прынцыпы, як і Шарль Мантэск'е, выводжу не з сваіх забабонаў, а толькі з самой прыроды рэчаў.

***Агінскі.*** Гэта тое ж самае, што і выхоплівац гукі з сваёй душы.

***Кацярына ІІ.*** І зачароўваць душы многіх і многіх гармоніяй гукаў гарманічнай душы.

***Агінскі.*** Бадай што ў гэтым і ёсць шчасце творцы ды і дзяржаўцы таксама.

***Кацярына ІІ.*** Менавіта таму мой кумір Вальтэр і называе душою тое, што акрыляе, узнімае, захапляе, запальвае, натхняе і, як мне здаецца, не толькі ў музыцы, але і ў справах дзяржаўных. Ці вы толькі ў нябёсах і ад спраў дзяржаўных так далёка, што вас нішто не натхняе, не захапляе, не кліча?

***Агінскі.*** Чаму ж далёка? Мяне, да слова, і кліча, і натхняе як раз тое, пра што ў свой час, калі цяжка захварэў кароль Аўгуст ІІІ, мела на ўвазе ваша вялікасць...

***Кацярына ІІ.*** Далі Бог не памятаю. *(Смяецца)*.

***Агінскі** (крыху разгубіўшыся).* Я пра тое, ваша вялікасць, што служу сваёй Айчыне, краю, дзе палонніца душа. Узначальваю войска. Нясу адказнасць перад людзьмі і Богам за яе абарону. Рыхтуемся да сойму, што абярэ караля і вялікага князя Рэчы Паспалітай.

***Кацярына ІІ.*** Гэта пахвальна. Але як вам, сябар мой, удаецца сумяшчаць палітыку з музыкай, бруд з боскай чысцінёй?...

***Агінскі.*** Чалавек, ваша вялікасць, па прыродзе сваёй істота палітычная; хто жыве толькі па сваёй прыродзе, а не ў выніку выпадковых акалічнасцяў, па за дзяржаўных інтэрэсаў, той - істота недаразвітая ў маральных адносінах; як і Гамер не ўхваляе, кажучы, што такі чалавек без роду, без племя, па-за закону, без агменю; параўнаць яго можна з выбітай з шэрагу пешкай на шахматнай дошцы. А я, як-ніяк, гетман найвышэйшы Вялікага Княства.

***Кацярына ІІ.*** Не ўяўляю, як можна існаваць адначасна ў мастацтве і палітыцы?!

***Агінскі.*** Ва ўсякага чалавека пасобку і ва ў сіх разам ёсць пэўная мэта, імкнучыся да якой яны адно выбіраюць, другога пазбягаюць. Я вырашыў не пазбягаць таго, што мне Бог даў і ў мастацтве, і ў палітыцы. І вас, ваша вялікасць, і мяне бадай што аднолькава хвалююць і ўзбуджаюць як музыка, так і палітыка. На жаль, у палітыцы многа жорсткага і трагічнага. Музыка глушыць маю самоту аб адсутнасці гармоніі ў палітыцы.

***Кацярына ІІ.*** Вы не баіцеся памыліцца, выбіраючы паміж самотаю ад палітыкі і самой палітыкай? Рэчы гэтыя розныя...

***Агінскі.*** Памыліцца можна па розному, правільна прыняць рашэнне — толькі адным шляхам, таму першае — лёгка, а другое — цяжка; лёгка прамахнуцца, цяжка трапіць у цэль. Я — воін, і ў гэтым мастацтве разумею.

***Кацярына ІІ.*** Даруйце, шаноўны, але адзін залатнік здаровага сэнсу, як сцвярджае Жан Жак, істотней, важней, чым цэлыя пуды разумовай дасціпнасці.

(Працяг у наступным нумары.)

# Будзе жыць Беларусь!

*Часам мне жыць*
*не пад сілу прыходзіцца,*
*Часам смяртэльная*
*думка зародзіцца,*
*Сэрца нудою шчыміць.*
*Як пагляджу,*
*што вакол мяне дзеецца...*
*("Сынам Беларусі"*
*М. Арол).*



*Хатцы 200 гадоў. Экскурсію для беларусаў Вільні праводзіць Алесь Белакоз. Гудзевічы, 13 снежня 2003 г. Фота Леакадзіі Мілаш.*

Шмат чытала пра Алеся Белакоза, захаплялася яго дзейнасцю, і неяк пачала збіраць матэрыялы пра Гудзевіцкі музей. Асабліва багата было публікацый восенню. А. Белакозу спаўнілася 75, Веры Белакоз – 70. Недаўна М. Скобла прывёз у Вільню кнігу Алеся Белакоза "Каб жыла Беларусь". Прачытала і вырашыла неадкладна наведаць Гудзевічы. Дарога няблізкая. Але знайшліся ахвотнікі – Алена Верабей, яе муж, сын, сястра Валянціна Верабей (настаўніца гісторыі) мастоўскай школы. Яна патэлефанавала, узгадніла час. І мы ў музеі. Пяць гадзін праляцелі, як адна хвіліна. У дзвюх апошніх залах былі толькі хвіліны літаральна. Восеньскія дні кароткія. Мне было ўсё цікава, я шмат ведала з публікацый, ведала, што ў гудзевіцкім музеі знаходзіцца глобус з Віленскай беларускай гімназіі, хацелася памацаць падвойныя дываны, паглядзець рэчы Л. Геніюш, часопіс "Праменьчык", рукамыйнік і гэдак далей. Есць музеі краязнаўчыя пры школах, клубах, а вось, каб вырасці да такога маштабу, атрымаць статус дзяржаўнага і стаць вядомым у свеце. Такі ёсць толькі ў Гудзевічах, трэба абавязкова пабачыць, там прапануюць крамянёвую ваду, раскажуць, як можна лячыцца народнымі сродкамі. У пакої народнай медыцыны затрымаліся больш. тут знаходзяцца матэрыялы, дасланыя Зоськай Верас, у музеі знаходзіцца і партрэт яе, намаляваны Вячкам Целяшам, рэчы Петры Сергіевіча, глобус падараваў музею Янка Багдановіч, выпускнік Віленскай беларускай гімназіі. А кнігі Я. Багдановіча "На жыццёвым шляху", якая выйшла пасля смерці аўтара ў музеі няма. Упэўнена – будзе. Вярнуліся з Гудзевіч перапоўненыя ўражаннямі ад пачутага і пабачанага. З такой любоўю Алесь Мікалаевіч расказваў пра паэта М. Арла, напамяць чытаў яго вершы, як і іншых паэтаў-землякоў, з гонарам распавядаў, што ўдалося ўстанавіць помнік, адкрыць забытае імя.

Я так шмат расказваю ў Вільні пра сустрэчу з Алесем Белакозам і пра тое, што ён робіць і які след пакіне на зямлі для нашчадкаў. Будзе жыць Беларусь, калі ёсць такі чалавек дзесі, як Алесь Мікалаевіч Белакоз – сын сваёй Бацькаўшчыны.

Жыве Беларусь!

***Леакадзія Мілаш, настаўніца беларускай школы, г. Вільня.***

*Алесь Белакоз. Гудзевічы, 14 снежня 2003 г. Фота Леакадзіі Мілаш.*

# У НАС УСЁ ЧЭСНА...

(Адказ "нацыяналісту")

Канешне, можна б прамаўчаць
на гэтыя ад вас папрокі.
Але адкажам, бо заўжды
насустрач чэсна
робім крокі.
Цяпер па сутнасці:
БТ у нас, канешне ж,
беларускае.
Калі й гучыць на ім падчас
з экрана мова руская,
Дык гэта клопаты пра вас,
каб наша адукацыя
Была найлепшай у СНД,
дык дзе дыскрымінацыя?
Але, каб роўнасць захаваць,
каб гэта ведаў
кожны рускі,
Радок, заўважце, унізе ёсць
і цалкам беларускі!
А што да радыё, дык там
таксама мова беларуская.
Канэшне, ёсць калі гучыць
у межах нормы мова руская,
Каб расіянам паказаць,
што ў нас мы ім
даўно гатовы
Стварыць для працы і жыцця
прывабней Пуцінскіх умовы!
У нас, спадарства, мовы дзве,
і ні адну не выдзяляем –
На ўсіх канторах шыльды дзве,
закон ніяк не парушаем.
А вам бы толькі абражаць,
аб дробязях спрачацца.
У нас усё чэсна, бачыць Бог,
не трэба прыдзірацца.

***Фелікс Шкірманкоў, Слаўгарад.***

# Крыжаванка "Адновім мову"

## *Перакласці на беларускую мову*

***Склаў Ігар Паўлоўскі***




**Па гарызанталях:** 2.Ежевика. 4.Вереск. 6.Пузырёк. 9.Алоэ. 10.Ухарь. 11.Замазка (ваконная) 12.Белка. 16.Пуля. 18.Сваи. 20.Справка. 21.Дадим. 22.Эхо. 24.Ведомый (дзеепрыметнік). 25.Бейте. 26. Нет, не имеется. 27. Строение (каменнае, цаглянае). 28.Состав. 29.Да (часціца).

**Па вертыкалях:** 1.Жизнь. 2.Ручка инструмента (малатка, гэбля). 3.Отрубил. 4.Возчик. 5. Движение. 7.Жир. 8.Угловой. 12. Ведущий (назоўнік). 13.Разведчик. 14.Лопата. 15.Окно в болоте (не заросшае мохам і напоўненае вадою). 17.Во (прыназоўнік) 19.Поляк. 21.Дыбом. 23.После.

*(Адказы можна праверыць на ст. 5.)*

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:* Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 12. 01. 2004 г. Замова № 21.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 3500 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1250 руб., 3 мес.- 3750руб.
*Кошт у розніцу:* 300 руб. (у Менску - 315 руб.)